PL ISSN 0546 - 1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 10 (1973) ГОД XXXIX | БЕЛАСТОК 7 САКАВІКА 1994 г. | ЦАНА 4000 зл.


*Вучні з Трасцянкі з настаўніцай беларускай мовы Аннай Мінько.*

## АБАВЯЗАК ПЕРАД РОДНЫМ

### Яшчэ ў Трасцянцы

вучацца дзеткі з Пухлаў, Сацоў, Бялкоў, Жыўкова, Анцутаў і мясцовыя. Усяго толькі 54 вучні. Усе названыя вёскі старэюць. Калі дэмаграфічная дэпрэсія будзе працягвацца, школа перастане існаваць. Невялікую колькасць вучняў можна будзе далучыць да Нарвы.

### Беларускую мову

вывучае 30 дзяцей.

— У нас усе бацькі навучанне гэтага прадмета лічаць натуральнай справай. У Трасцянцы няма патрэбы разбуджаць нацыянальную свядомасць. Людзі тут чытаюць „Ніву” і слухаюць беларускія радыёперадачы, штодзень карыстаюцца беларускім дыялектам. Як усюды, так і ў нас, знойдзецца такі бацька, які не дазволіць свайму дзіцяці хадзіць на беларускую мову. Быў такі прыклад, што бацькі не пускалі, а сын і так прыходзіў на гэтыя заняткі. Быў таксама і такі выпадак, што бацька прасіў не ўпісваць беларускую мову ў школьнае пасведчанне. Але гэта вельмі рэдкія здарэнні, — кажуць настаўнікі.

Колькасць дзяцей, якія вучацца беларускай мове залежыць ад веравызнання. У школе 15 вучняў — каталікі і 39 — праваслаўныя. Каталіцкія дзеці з Анцутаў ніколі не хадзілі на беларускую мову. Праваслаўныя сяляне і настаўнікі лічаць іх палякамі.

— Няма ў нас нацыянальных канфліктаў. Усе дзеці і бацькі добра разумеюць беларускі дыялект, — паясняюць настаўнікі.

З 1991 года школа знаходзіцца ў распараджэнні

### гміннага самаўрада

ў Нарве. Настаўнікі хваляць змену сва-ёй прыналежнасці. У назначаным тэрмі-не атрымоўваюць грошы за працу. Не трэба клапаціцца пра вугаль. Атрымалі таксама 30 мільёнаў на рамонт будынка. Школа адмаляваная, зроблены новыя дэкарацыі. Ёсць таксама транспарт для дзяцей з навакольных вёсак (трактар з прычэпам для перавозу людзей). У Трасцянцы

### працуе сем настаўнікаў.

У школе ёсць спецыялісты па пачатковым навучанні, біялогіі-фізкультуры, тэхнік, русіст і беларусістка. Два настаўнікі канчаюць дадатковыя факультэты паланістыкі і матэматыкі. Праваслаўную рэлігію выкладае айцец Георгій Ахрымюк, а каталіцкую — нараўскі ксёндз Эдмунд Тараруй. Усе настаўнікі даязджаюць з навакольных мясцовасцей.

### Дырэктар школы

Багдан Назарка працуе ў асвеце ўжо многа гадоў. Настаўнічаў у Махнатым, Белавежы, працаваў у Кураторыі. У Трасцянцы ўжо другі год. Сам даязджае з Гайнаўкі. Наогул хваліць працу сваіх супрацоўнікаў.

— У нас няма ніякіх недаразуменняў. Усе настаўнікі працуюць аддана і згодна. Няма таксама выхаваўчых праблем з вучнямі.

Дырэктар Багдан Назарка — русіст. Аб’ектыўна сцвярджае, што ў Трасцянцы

### не хочуць вучыцца рускай мове.

Бацькі ўжо не раз заяўлялі патрэбу вывучання англійскай ці нямецкай моў, але няма спецыяліста па заходніх мовах. Дырэктар не хацеў бы прымаць на працу тэхніка па будаўніцтву (як яму прапанавалася), бо „не хопіць ведаць мову і навучаць ужо гэтаму прадмету”. Пакуль што ўсе вывучаюць рускую мову.

### Настаўніца Анна Мінько

— студэнтка пятага курса беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта. Праз два месяцы будзе абараняць магістэрскую дысертацыю пра фальклорную абраднасць вёскі Козлікі. Беларускай мове навучае ўжо шмат гадоў (была таксама маёй настаўніцай беларускай мовы ў Пачатковай школе). У Трасцянцы заступіла беларусістку Галену Тапалянскую, якая зараз на пенсіі. Апрача беларускай мовы вядзе ўрокі па музыцы і гісторыі. У Трасцянцы, як і ў Крыўцы

### скарацілі гадзіны навучання

беларускай мовы. З той прычыны дзейнічае пазаўрочны гурток (адна гадзіна ў тыдзень).

— Пазаўрочныя заняткі напэўна выклікаюць сімпатыю для гэтага прадмета. На гуртку мы рэалізуем прапановы вучняў. Вывучаем беларускія песні, гатовім сцэнічныя творы на школьныя мерапрыемствы. Дзеці вельмі ангажуюцца ў такую дзейнасць. Вясною маем арганізаваць вогнішча. Але скарачэнне гадзін некарыснае для рэалізацыі прадметнай праграмы. У дзве гадзіны цяжка памясціць літаратуру і граматыку, бо праграма разлічана на 4 гадзіны. Трэба шмат спраў абагульняць, — гаворыць беларусістка.

Дырэктар, Багдан Назарка, не схацеў пракаментаваць гэты факт і адаслаў мяне да войта.

### Ян Тапалянскі

— войт Нараўскай гміны тлумачыў гэта ў такі спосаб:

— Справа скарачэння гадзін вынікла з дыскусіі аб навучанні беларускай мовы. Разам з настаўнікамі дайшлі мы да вываду, што тры гадзіны прадмета (часта на апошніх уроках, бо не ўсе дзеці вучацца), даводзіць да яшчэ большага змяншэння колькасці вучняў на ўроках беларускай мовы. Пазаўрочныя заняткі былі ўведзены з мэтай зрабіць гэты прадмет больш атракцыйным. З боку гміннага самаўрада створана

### спрыяльная атмасфера.

Грошы на беларускую мову заўсёды будуць. Такія заняткі стаяць на першым месцы (у Трасцянцы толькі адзін гурток беларускай мовы; у Нарве і Ласінцы ёсць 3 гадзіны навучання і пазаўрочныя заняткі). Калі б нашыя настаўнікі і вучні схацелі мець нават 5 дадатковых гадзін,

☞ *Працяг на стар. 3*


*Дырэктар школы ў Трасцянцы Багдан Назарка і настаўніца Анна Мінько.*

## ПАВЕЯЛА НАЦЫЯНАЛІЗМАМ

Сеймавая Камісія нацыянальных і этнічных меншасцяў у сераду 16 лютага знаёмілася з праблемамі беларускай меншасці. Прадстаўлялі іх паслам дзеячы Беларускага саюза і БГКТ, узначаленыя сваімі старшынямі — Пятром Юшчуком і Янкам Сычэўскім. На жаль, адсутнічаў з прычыны хваробы, старшыня парламенцкай Камісіі Яцак Курань, вядомы сваёй прыхільнасцю да беларусаў.

Усё-такі, можна сумнявацца, ці ягоная прысутнасць намнога змяніла б настрой нарадаў, паколькі ў ходзе пасяджэння стала вядомым, што бюджэтная камісія адкінула ўсе прапанаваныя карэктывы ў план дзяржаўнага бюджэта на гэты год. Такім чынам стала таксама вядомым, які будзе адказ на заяву-пратэст супраць памяншэння дзяржаўных датацыяў на культуру нацыянальных меншасцяў, якую раней напісалі іхнія прадстаўнікі ў адрас прэм’ер-міністра Паўляка.

У такой сітуацыі дыскусія сышла на грунт прынцыповых разважанняў наконт патрабаванняў беларусаў Беласточчыны. Пятро Юшчук рашуча дамагаўся вырашэння праблемы інстытуцыянальнага забеспячэння патрэбаў беларускай культуры і асветы на Беласточчыне шляхам утварэння Цэнтра і Інстытута беларускай культуры ў Беластоку. Урадавы бок у асобе віцэ-міністра культуры і мастацтва Міхала Ягелы супрацьставіўся такому вырашэнню, паказваючы на кошты, якія нясе дзяржава ў сувязі з пабудовай Беларускага музея ў Гайнаўцы. Якраз там Міністэрства бачыць месца для Цэнтра беларускай культуры. Прапанову пасла ад СЛД Сяргея Плевы, які апошнім часам пачаў афіцыйна выступаць як беларус і заступацца за беларускія справы, каб такі Цэнтр зрабіць у будынку БГКТ на вуліцы Варшаўскай, неяк ніхто не падтрымаў. Магчыма таму, што БГКТ, як выявілася, вінаватае гарадской управе каля 200 млн. зл. за арэнду будынка і проста просіць фінансавай падтрымкі.

Далей дыскусія набрала яшчэ больш прынцыповы характар. На дакоры аднаго з паслоў, што беларусы не выкарыстоўваюць спрыяльных палітычных умоваў, ніжэйпадпісаны прадставіў свой погляд на гэту справу, гаворачы пра публічныя атакі на беларусаў з боку правых палітыкаў і каталіцкіх іерархаў. Адносна фінансавання культуры я выказаў агульны погляд, што калі беларусы складаюць трэць насельніцтва ваяводства, дык столькі ж і павінна адводзіцца грошай на беларускую культуру. Тут, ні з таго, ні з сяго, ускіпеў міністр Ягела і пачаў дакараць мяне як старшыню БДА ў сепаратызме. Маўляў, з дзялення грошай пачынаецца дзяленне дзяржавы. „Powiało nacjonalizmem”, — дакінуў ад сябе пасол Плева.

Магчыма, што нешта праясніцца падчас візіту прадстаўнікоў сеймавай Камісіі на Беласточчыне, які плануецца ў недалёкай будучыні.

**АЛЕГ ЛАТЫШОНАК**

# МЫ ПРАЧЫТАЛІ

*Вярхоўны Савет РБ вельмі нагадвае даваенны польскі сойм. Чым? Тым, што яны аднолькава заўзята душаць беларускую справу. Беларускі пасольскі клюб тады і БНФ сёння выконваюць амаль аднолькавую ролю. Параўнайце толькі прамовы Бранislава Тарашкевіча з прамовамі Зянона Пазьняка.*
*(Свабода, н-р 5)*

* * *

*Если ввязываться в политику, то по большому счёту и бороться за президентский пост. Надо воздержать державу и сделать её такой, чтобы люди были в ней здоровы и счастливы,* — сказаў дэпутат Вярхоўнага Савета Расіі Анатоль Кашпіроўскі.
*(Народная газета, н-р 25)*

Кашпіроўскі з'яўляецца дэпутатам ад Ліберальна-дэмакратычнай партыі Расіі У. Жырыноўскага. У змаганні за пост прэзідэнта гэтай дзяржавы будзе ён канкурэнтам Уладзіміру Вольфавічу. Нудна не будзе!

* * *

*W zasadzie nie wiadomo czym różni się polska prawica od polskiej lewicy. Z pewnością nie tym, czym różnią się te formacje w pozostałej części kuli ziemskiej, czyli podejściem do gospodarki. Ostatnio okazało się jednak, że różnice są. Otóż polską prawicę od polskiej lewicy różni stosunek do prezerwatywy. Pierwsi uważają, że prezerwatywy nie chronią przed zarażeniem wirusem HIV, drudzy twierdzą coś wręcz przeciwnego.*
*Polska jest takim krajem, w którym na tematy medyczne zamiast lekarzy wypowiadają się politycy. Wkrótce w przychodniach zdrowia zamiast lekarzy będą dyżurowac partyjni aktywiści.*
*(Gazeta Współczesna, nr 30)*

* * *

*Radni Sokołowa Podlaskiego zgłosili pomysł, aby jedną z ulic nazwać imieniem prezydenta Wałęsy, plac Waryńskiego przemianować na plac Wachowskiego, zaś plac ks. Brzóski — na ks. Cybuli.*
*(Polityka, nr 7)*

**Безумоўна, цікавая, вартая падтрымкі ініцыятыва. Шкада толькі, што беластоцкія райцы пра гэта не падумалі.**

* * *

*W międzyczasie towarzysz Gierek zmienił geografię województw. „Gazeta Białostocka" przechrzciła się na „Gazetę Współczesną". W budynku przy ul. Wesołowskiego pojawiła się białoruska „Niwa".*
*(Kurier Poranny, nr 30)*

Towarzyszom z „Kuriera Porannego" coś się popieprzyło. „Niwa" w tym budynku pojawiła się nie za Gierka, lecz w 1958 r., w chwili oddawania go do użytku i trwała w tych samych pomieszczeniach do grudnia 1993 r., do czasu gdy towarzysze z Urzędu Miasta wysokością stawek czynszowych nie zmusili do zmiany miejsca redakcji. Trzy miesiące później Zarząd Mienia Komunalnego wydzierżawił na licytacji pomieszczenia, które zajmowała „Niwa", za sumę niewiele wyższą niż płaciła redacja.

* * *

*W wielu miastach najważniejszą rolę odgrywają układy rodzinne i towarzyskie, a nade wszystko wazeliniarstwo i liżydupstwo wobec ośrodków ukrytej władzy, która może utrudniać towarzyszom robienie biznesu. Jaki problem wykończyć teatr, ośrodek kultury. Znając trochę Polskę jestem pewien, że Białystok znajduje się w ścisłej czołówce tej debilnej listy.*
*(Styk, nr 1, styczeń-luty 1994 r.)*

* * *

*Arcybiskup Sawa mianowany Ordynariuszem Polowym czeka na belwederską nominację na stopień generała brygady. Zdaniem ks. Michała Dudzicza z Warszawskiej Kurii metropolitarnej, sprawcą spóźnienia nie jest MON, Belweder czy czasochłonna procedura, lecz niechęć biskupów katolickich. Jego zdaniem w wojsku są ludzie, którzy chcą, aby prawosławny biskup polowy był sierżantem. Przypomnijmy, że katolicki biskup polowy Sławoj Leszek Głódź ma stopień generała dywizji.*
*(Kurier Poranny, nr 31)*

* * *

Напярэдадні Міжнароднага жаночага свята ў Беластоку адбудзецца фестываль „Беларуская песня-94".
*(Народная газета, н-р 23)*

У нас гаварылі, што фестываль гэты адбудзецца напярэдадні Вялікага посту.

* * *

*Псыхалёгія нявольнікаў праяўляецца таксама ў Беларусі. Прыгадвае яна выпадак вязьня, які адбыў пакараньне 25 гадоў турмы ды быў выпушчаны на волю. Ён зьявіўся перад брамай турмы, просячы прыняць яго назад. Ён ня ведаў, што рабіць з сабой, ён прывык выконваць загады ды мець што есьці без патрэбы клапаціцца аб тым, як арганізаваць свой дзень ды як забясьпечыць штодзённыя патрэбы жыцьця.*
*(Беларус, н-р 409, Нью-Йорк)*

* * *

*Pierwsze miesiące nowej ekipy rządzącej utwierdzają mnie w przekonaniu, że posiada ona „dziedziczną", rzec można, skłonność do psucia gospodarki* — сказаў прафесар Ян Вінецкі.
*(Wprost, nr 7)*

* * *

*PSL z tytułu najmu swojej siedziby w Warszawie Bankowi Gospodarki Żywnościowej uzyskało w 1993 roku dochód 14,5 miliarda złotych. Jest to suma, która pokryła koszty kampanii wyborczej.*
*(Rzeczpospolita, nr 34)*

**Урад плануе цяпер дафінансаваць гэты банк з дзяржаўнага бюджэту, а пасля прыватызаваць яго. Пакуль хлопцы возьмуць банк на ўласнасць, спачатку папоўняць яго грашамі.**

* * *

*Dyrektor finansowy Polimex-Cekop, firmy o większościowym udziale Skarbu Państwa, otrzymał nagrodę w wysokości miliarda ośmiuset milionów złotych, kierowniczka działu rozliczeniowego — sześćset milionów. Działo się to przy gwałtownie spadających obrotach przedsiębiorstwa.*
*(Polityka, nr 6)*

* * *

*Jerzy Urban płaci za ochronę swojej rezydencji 60 mln. miesięcznie.*
*(Wprost, nr 6)*

* * *

А цяпер штось са штодзённага жыцця грамадства:
*Polska jest krajem wdów. Żyjemy krócej, zwłaszcza mężczyźni. Polacy przypominają schorowaną zbiorowość, która wyraźnie traci na kondycji.*
***(Rzeczpospolita, nr 36)***

Усё больш-менш так, як у Амерыцы... Лацінскай.

## З мінулага тыдня

**Прэзідэнт Лех Валэнса** накіраваў ліст маршалку Сейма **Юзэфу Алексаму**, у якім паінфармаваў аб вывадзе свайго прадстаўніка з парламенцкай Канстытуцыйнай камісіі. „У сувязі з тым, што мая ініцыятыва (прэзідэнцкі праект канстытуцыі — рэд.) была адкінута ўжо падчас першага чытання без глыбокага аналізу і сур'ёзнай мерытарычнай дыскусіі, я рашыўся вывесці свайго прадстаўніка з удзелу ў працах Канстытуцыйнай камісіі. Адначасна здымаю перададзены раней мой праект канстытуцыі", — напісаў прэзідэнт.

**Маршалак Сената Адам Струзік** „з прыкрасцю" ўспрыняў выказванні прэзідэнта аб адводзе яго ўстановы з прац над канстытуцыяй, а таксама погляд **Леха Валэнсы** аб г.зв. „посткамуністычных сілах". „Мы знаходзімся на такім этапе развіцця дэмакратыі ў Польшчы, што ўсе павінны шукаць кампрамісныя вырашэнні і магчымасці супрацоўніцтва, нягледзячы на розныя палітычная погляды", — сказаў маршалак. На яго думку рашэнне Сейма было „вельмі неабдуманым", але і рэакцыя прэзідэнта была таксама „надта радыкальнай". Адам Струзік спадзяецца, што стварыўшаяся сітуацыя не закрывае, аднак, магчымасці супрацоўніцтва ні паміж прэзідэнтам і Сеймам, ні паміж Канстытуцыйнай камісіяй і прадстаўнікамі апазіцыі.

**У Кракаве** сустрэліся міністры замежных спраў Польшчы і Расеі: **Анджэй Аляхоўскі і Андрэй Козыраў**. У ходзе спаткання абмяркоўваліся новыя формы палітычнага і гаспадарчага супрацоўніцтва, разглядаліся справы еўрапейскай бяспечнасці, у тым ліку і ініцыятыва „Партнёрства дзеля міру". Міністры падпісалі таксама польска-расейскую дамову аб магілах і месцах ушанавання памяці ахвяр войнаў і рэпрэсій.

**Пасол Рэспублікі Беларусь Уладзімір Сянько і консул Ігар Хадасевіч** вялі размовы з беластоцкім ваяводам **Станіславам Пруцісам** і віцэ-прэзідэнтам горада **Маркам Сасноўскім** наконт функцыянавання Генеральнага консульства ў Беластоку. Беларускі бок рашуча адмовіўся ад прапанаванага мясцовымі ўладамі аднаго паверха ў будынку пры вул. Варынскага і патрабуе выпаўнення папярэдняй дамоўленасці — прызначэння на патрэбы дыпламатычнага прадстаўніцтва асобнага будынка ў цэнтры горада. У тым жа часе ўлады горада Беластока не толькі што не здаволілі жадання беларускага пасольства, але аб'явілі публічныя таргі на будынак пры вуліцы Сітарскай 25, у якім трэці месяц жыве консул І. Хадасевіч з сям'ёй, не прапануючы дыпламату іншай кватэры.

**Намеснік шэфа грамадзянскай абароны Беларусі ген. Анатолій Панамароў** узначальваў дэлегацыю, якая пабывала ў Беластоку. Падчас сустрэчы з ваяводам **Станіславам Пруцісам**, шэфам Грамадзянскай абароны краіны ген. **Эдвардам Рагаляй** і шэфам Ваяводскага інспектарата грамадзянскай абароны палк. **Мар'янам Казлоўскім** былі абмеркаваны пытанні аховы асяроддзя, прыгранічнага супрацоўніцтва і перавозу цераз наш рэгіён небяспечных рэчываў. Беларускія госці наведалі Лабараторыю біяфізікі Медыцынскай акадэміі і сядзібу Ваяводскай інспекцыі аховы асяроддзя.

**Ваяводская рада занятасці насельніцтва** размеркавала 51 млрд. зл., перададзеных Міністэрствам працы і сацыяльнай палітыкі на актыўныя формы барацьбы з беспрацоўем у Беластоцкім ваяводстве. Найбольш грошай атрымае Раённая ўстанова працы ў Беластоку — 19 млрд. зл., менш такія ж установы ў Саколцы — 9 млрд., Бельску-Падляшскім — 7,5 млрд., Гайнаўцы — 4,7 млрд., Дуброве-Беластоцкай — 2,7 млрд., Лапах — 3 млрд., Моньках — 3,3 млрд. і Сямяцічах — 1,8 млрд. зл.

**Звыш 859 млн. зл.** было сабраных у Беластоку падчас акцыі **Вялікага аркестра святочнай дапамогі**. Грашовыя паступленні — вынік аўкцыёнаў адмысловых залатых сэрцаек і карцін, пераводы беластоцкіх фірмаў і ахвяраванні жыхароў горада. Арганізатары акцыі сабралі таксама 921 долар і 345 нямецкіх марак ды ювелірныя вырабы і неканверсуемую валюту вартасцю ў 50 млн. злотых.

**У Кленіках** Чыжоўскай гміны зладзеі ўзламаліся ў прадуктовы магазін, адкуль укралі 135 бутэлек алкаголю, папяросы і шакаладныя вырабы вартасцю ў 25 млн. зл.

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ"

- Беларусы спяваюць.
- Паліцыянты на дыскатэцы.
- Міра Лукша ў Меляшках.
- Ганна Кандрацюк у нараўскай школе.



# ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

### Палітычны страйк

15 люты прайшоў на Беларусі пад знакам рэспубліканскага палітычнага страйку. У Менску на плошчы Незалежнасці перад Домам урада сабралася шматтысячная група грамадзян і адбыўся мітынг. Дэманстранты патрабавалі неадкладнай адстаўкі ўрада, стварэння ўрада народнага даверу на пераходны перыяд і датэрміновых выбараў у Вярхоўны Савет на шматпартыйнай аснове на падставе новага закону аб выбарах. Пасля мітынгу ўдзельнікі дэманстрацыі прайшлі пад будынак Вярхоўнага Савета. Чатыры прадстаўнікі палітычнай забастоўкі свае патрабаванні перадалі старшыні ВС Мечыславу Грыбу.

Падобныя мітынгі адбыліся на цэнтральных пляцах многіх гарадоў Беларусі.

### Адказ Вярхоўнага Савета

Прэзідыум Вярхоўнага Савета разгледзеў патрабаванні страйкавых камітэтаў і заявіў наступнае: „У сваёй заяве ад 11 лютага Прэзідыум падкрэсліў неабходнасць правядзення ў I палове г.г. усенародных выбараў кіраўніцтва дзяржавы і выканаўчай улады. З выбраннем вышэйшай службовай асобы гэты ўрад павінен скласці свае паўнамоцтвы і будзе сфарміраваны новы. Прэзідыум звяртае ўвагу на непрымальнасць ультыматыўнага тону патрабаванняў. Прэзідыум лічыць недапушчальным вырашэнне складаных дзяржаўных пытанняў незаконнымі метадамі".

### Наступ рэпрэсій

„З боку ўрадавых колаў вядзецца выразна антыбеларускі, ненавісны, антыдэмакратычны наступ, парушаюцца правы чалавека", — сказаў лідэр БНФ Зянон Пазьняк. Адным з першых удзельнікаў страйку, які быў прыцягнуты да адказнасці, стаў Вячаслаў Козел з Менскага трактарнага завода. У выніку трох судовых разбораў В. Козел быў аштрафаваны: за арганізацыю мітынгу ля прахадной завода на 200 рублёў, за несанкцыянаванае шэсце калоны рабочых і служачых МТЗ на пляц Незалежнасці — 1000 рублёў і за распаўсюджванне лістовак — 300 рублёў. Позвы ў аддзяленне ўнутраных спраў Ленінскага раёна Менска атрымалі народныя дэпутаты ВС Сяргей Навумчык і Сяргей Антончык.

Падобныя меры прымаюцца ў адносінах да ўдзельнікаў страйку па ўсёй Беларусі. Напрыклад, судовы разбор па гэтаму поваду вядзецца супраць Пятра Баравіка з Новалукомля, а позвы ў Кастрычніцкі РАУС Віцебска атрымалі дэпутаты: гарсавета — Гаўруцькаў і Прышчэпа, і абласнога савета — Мацвееў.

### Пратэст дэмакратаў

Выканаўчы камітэт аб'яднанай дэмакратычнай партыі Беларусі выказаў рашучы пратэст супраць палітычных рэпрэсій у рэспубліцы і пакінуў за сабою права звярнуцца да міжнароднай грамадскасці з заклікам распачаць кампанію пратэсту супраць грубых парушэнняў правоў чалавека ў Беларусі. У заяве выканкама АДПБ у сувязі з рэпрэсіямі супраць лідэраў свабоднага прафсаюза адзначана, што „адбыўся якасны пераход у эвалюцыі рэжыму — ператварэнне яго ў аўтарытарны. Гэта заканамерны вынік апошніх зменаў у кіраўніцтве дзяржавы. Абранне на вышэйшы дзяржаўны пост генерала міліцыі не магло не прывесці да змянення метадаў барацьбы з палітычнай апазіцыяй і сіла становіцца галоўным аргументам у адказ на справядлівае абурэнне народа. Гэта прывядзе да стварэння адыёзнага іміджу нашай дзяржавы ў вачах сусветнай супольнасці і да знешнепалітычнай ізаляцыі рэспублікі".

### Пасля роспуску БЗВ

Паводле рашэння Вярхоўнага Суда РБ ад 16 лютага г.г. спынена дзейнасць Беларускага згуртавання вайскоўцаў. У той жа дзень быў утвораны арганізацыйны камітэт Патрыятычнага руху „Беларускае згуртаванне вайскоўцаў", які з'яўляецца правапераемнікам ранейшага БЗВ. Тры тысячы сяброў былога БЗВ, як заявіў старшыня колішняга згуртавання, а зараз арганізацыйнай рады Мікалай Статкевіч, стануць сябрамі арганізацыйных груп Патрыятычнага руху „БЗВ". Рух не будзе спяшацца з рэгістрацыяй, паколькі дзеючае заканадаўства не назначае тэрміну, на працягу якога павінна адбыцца ўстаноўчая канферэнцыя ці з'езд новай арганізацыі. Старшыня арганізацыйнай рады заявіў таксама, што не выключае магчымасці забароны на Беларусі ўсіх дэмакратычных арганізацый і рух гатуецца да дзейнасці на нелегальным становішчы.

### Патрэбны дэмакратычны блок

Былы старшыня беларускага парламента Станіслаў Шушкевіч выказаўся за стварэнне перадвыбарнага блока дэмакратычных сілаў рэспублікі. У яго маглі б увайсці розныя грамадска-палітычныя арганізацыі, уключаючы найбольш шматлікі апазіцыйны БНФ. Шушкевіч даў зразумець, што прыме актыўны ўдзел у арганізацыі такога блока і заявіў, што сваю партыю пакуль ствараць не мае намеру.

 

# ПАНАРАМА ЧАРОМХАЎСКАЙ ГМІНЫ

## (4)

### Кузня спецыялістаў

Асяродак прафесіянальнага навучання заснавалі ў Чаромсе ў 1967 годзе. Спачатку тут вучыліся будучыя краўчыхі і цырульніцы. Пасля пры школе арганізавалі майстэрню-варштаты і сталі рыхтаваць слесараў-механікаў і электрамеханікаў. Сюды прыйшлі вучыцца шматлікія выпускнікі пачатковых школ з Чаромхаўскай, Нурэцкай, Кляшчэлеўскай, Сямяціцкай гмін. Карысную прафесію здабыла каля 180 асоб. Некаторыя выпускнікі гэтай трохгадовай політэхнічнай школы пайшлі вучыцца далей у тэхнікумы і ў вышэйшыя навучальныя ўстановы.

— Зараз у нашым філіяле Установы прафесійнага удасканальвання (Zakładu Doskonalenia Zawodowego) моладзь не толькі вучыцца, — паінфармаваў кіраўнік мгр інж. Павел Шатыловіч. — Выконваем спецыялістычныя паслугі, напрыклад, слесарскія, электрычнай і газавай зваркі ды электратэхнічныя, а таксама выпускаем прадукцыю.

Школьная майстэрня прадукуе варштатныя сталы і супрацьпажарныя скрынкі для суднаверфяў у Гданьску і ў Гдыні, вагонныя сметнікі ды дзверы вагонаў для перавозкі вугалю для рамонтных прадпрыемстваў чыгуначнага рухомага саставу ў Мінску-Мазавецкім, Новым Сончу, Аполі і ў Сасноўцу, бляшкі і алюмініевыя формы да пячэння хлеба і піражнага для хлебабулачных заводаў ПСС „Сполэм" у Варшаве, Лодзі і Беластоку.

Асартымент вырабаў будзе ўжо амаль поўны, калі яшчэ дадаць балюстрады, поручні, нішавыя шафкі на электрычныя лічыльнікі ды выцяжныя каўпакі над плітой для будаўнічых фірмаў у Беластоку. Апрача таго ідзе пастаянная прадукцыя электравыпрамнікоў для зараджання аўтамабільных акумулятараў. У мінулым годзе вартасць прадукцыі і паслуг склала звыш 2 мільярды злотых.

### Алё! па тэлефоне

Цяпер Чаромхаўская гміна мае 315 тэлефонаў. Карыстаюцца імі ўсе дванаццаць салэцкіх вёсак. Найбольш прыватных тэлефонаў маюць жыхары Чаромхі — 211, затым Кузавы — 22 і Чаромхівёскі — 15. У канцы мінулага года тэлефоны атрымалі чаромхаўцы, якія жывуць па Фабрычнай і Спартыўнай вуліцах.

Усяго толькі па два тэлефоны ёсць у Вульцы-Тэрахоўскай, Ставішчах і Беразышчах. Гэта малавата, паколькі ў гэтых сёлах пражывае 520 чалавек.

У 1991 годзе праводзілі мадэрнізацыю тэлефонных ліній. Каштавала гэта 106 мільёнаў злотых. За аднаўленне лініі ў Кузаве гмінныя ўлады заплацілі 46 млн. злотых і ў Чаромсе-вёсцы — 38 млн. злотых. Апрача таго рамантавалі лініі ў Янцэвічах і ў Беразышчах за 22 мільёны злотых.

### Каб здаровымі былі

У Чаромхаўскай гміне дзейнічаюць Раённая лекарская амбулаторыя чыгуначнікаў і Гмінны асяродак здароўя. Пры асяродку здароўя арганізавалі радзільны пункт. У чыгуначнай амбулаторыі і асяродку здароўя працуе пяць лекараў, у тым ліку ўрач-стаматолаг.

Гмінны асяродак здароўя (ГОЗ) не мае добрых умоў да працы. Пацыентаў шмат. Для ўсіх адна-аднюсенька пачакальня. Тут чакаюць у чарзе дзеці хворыя разам са здаровымі дзяцьмі.

У асяродку з 1987 года нязменна працуе доктар Валянціна Беразовіч. Калі ёсць поспехі ў працы, дык яны нялёгка даюцца. Медыцынскі персанал не забяспечаны жылымі кватэрамі. З вясны 1991 года няма ў гміне карэты хуткай дапамогі. Як тады наведваць цяжка хворых дома? Выбар такі: ісці пехатой або ехаць на ровары. Прадстаўнікі дырэкцыі ЗОЗ у Гайнаўцы мала цікавяцца надзённымі справамі так званага „тэрэну", а ўжо зусім глухія на патрабаванні ГОЗ у Чаромсе. Гэта ўжо не толькі меркаванне, але сцверджанне факта.

Чаромхаўскаму медычнаму персаналу ўсё ж было б цікава ведаць, ці ў такім выпадку можна мець ціхую надзею-спадзяванне на дапамогу з боку Гміннай управы, войта і яшчэ каго-небудзь добразычлівага, мо нейкага спонсара (як зараз гэта бывае і практыкуецца). Гміннаму асяродку здароўя транспарт неабходны! Усе іншыя віды дапамогі таксама вельмі пажаданы.

### Беспрацоўе

Зараз у Чаромхаўскай гміне 222 беспрацоўныя, у тым ліку 135 жанчын. Не могуць знайсці працу 22 выпускнікі прафесіянальных і агульнаадукацыйных школ. 120 чалавек страціла права на так званы „засілак".

У мінулым годзе пастаянную фінансавую дапамогу з Гміннага асяродка грамадскай дапамогі атрымлівала васемнаццаць асоб (ім выплацілі 197 мільёнаў злотых), а перыядычную дапамогу — 59 чалавек (232 млн. злотых) і аднаразовую — 144 асобы (60 мільёнаў злотых).

Сёлета прадбачваецца скарачэнне штатаў на чыгунцы.

### Аб усім патрошку

* У канцы 1991 года ў Чаромхаўскай гміне здалі ў карыстанне бензастанцыю для запраўкі аўтамабіляў.
* У 1992 годзе вернікі пачалі хадзіць на багаслужбу ў новую царкву ў Чаромсе.
* У канцы мінулага года адкрылі пераход цераз дзяржаўную мяжу ў Палаўцах.
* У апошнія гады ў гміне пабудавалі адзінаццаць кіламетраў асфальтавых дарог.
* Закончылі мадэрнізацыю вулічнага электрычнага асвятлення ў Чаромсе, Баброўцы, Ставішчах, Зубачах і ў Беразышчах.
* Плануюць пабудову дашкаў над лавачкамі на стадыёне ў Чаромсе.
* У гміне функцыю солтыса выконваюць пяць жанчын: Вера Маркевіч у Баброўцы, Ніна Дэмідзюк у Беразышчах, Цэліна Левандоўская ў Пагулянцы, Марыя Смык у Ставішчах і Галена Назарук у Вульцы-Тэрахоўскай. Найдаўжэйшы стаж у Галены Назарук і ў Марыі Смык.

**ЯНКА ЦЕЛУШЭЦКІ**

# Баба з воза

Васіль Петручук абурыўся на „Ніву", а асабліва на яе галоўнага рэдактара, што не пусцію у друк яго артыкула, а другі пакарацію. Ці гэта кампраметацыя? Ад таго ёсць рэдакцыя, каб выпраўляць тэксты, а тыя ненадзейныя пасылаць у архіў. Я ўжо не ўспамінаю колькі маіх артыкулаў ніколі не паказалася на старонках „Нівы", хаця мне яны здаваліся нават... нічога сабе. Але я на нікога не гневаўся. Пару гадоў таму назад мае артыкулы не толькі недзе гінулі, але, што найгоршае, апынуліся ў руках таго ж Васіля Петручука, які выкарыстоўваў іх нязгодна з прынцыпамі чалавека гонару. Справа надавалася толькі ў суд, але махнуў я на гэта ўсё рукою.

Каб Петручук меў жаль да сваіх сябroў з „Белавежы", што не захацелі надрукаваць яго „Драму з хэпі-эндам" не было б нічога дзіўнага. Я разумею, што не гонар славутаму пісьменніку, калі яго верш-„рабінушку" друкуюць побач з творчасцю селяніна. У адным я згодны з Петручуком. Я таксама не маю жадання, каб маё прозвішча было змешчана побач прозвішча гэтага „старога белавежца".

Петручук наогул не заахвочвае да смеху, але адной фразай са свайго апошняга ліста шчыра мяне развесяліў. Піша ён, што некаторыя называюць яго „пілсудчыкам". Гэта ж гучыць так, як наступная фраза: „Ленін быў найбольшым дэмакратам".

Шчыра кажучы, прачытаўшы той „Парнасік" у пятым нумары „Нівы", я ўспрыняў гэта як штосьці нармальнае, але закіды Петручука прывялі мяне да перакanання, што не трэба было аднак змяшчаць мой верш побач так „знакамітага" твора, напісанага „знакамітым паэтам". Успомніўся мне славуты „Ліст беларускіх пісьменнікаў да Сталіна" і сённяшнія выказванні нашага славутага прафесара, які цяпер хваліць капіталізм і заяўляе, што так, як быў лаяльным у адносінах да камуністаў, так гатовы быць лаяльным да кожнай іншай улады. Прыглядаючыся гэтым нашым вялікім вучоным і паэтам, я, як селянін, не адчуваю ніякіх комплексаў, бо, здаецца, людзі на вёсцы маюць больш гонару за іх. І хаця Петручук лічыць сябе чымсьці лепшым за мяне, бо ён маёр і пісьменнік, я, шчыра гаворачы, пачынаю яму спачуваць, бо стаў ён толькі смешным чалавекам.

**МІКАЛАЙ ПАНФІЛЮК**

# АБАВЯЗАК ПЕРАД РОДНЫМ

☛ *Працяг са стар. 1*

то я ўсё зрабіў бы, каб мова гэтая была. Справа ў тым, што гміны і школы

### патрабуюць падтрымкі

з боку беларускіх арганізацый. А такой падтрымкі няма. Асяроддзе ў нас вельмі разбітае. Няма арганізаванай сілы, якая тлумачыла б патрэбу навучання. Я, як войт, не заўсёды маю магчымасць уплываць на свядомасць грамадзян ці настаўнікаў. Калі зробіцца ў нас адзін крок у беларускай справе, зараз знойдуцца такія, якія будуць успрымаць гэта як парушэнне польскіх дзяржаўных інтарэсаў. У нашай сітуацыі адзіны выхад — гэта

### абавязак навучання.

Калі гаворыцца ў нас пра інтэграцыю культуры, то несур'ёзна ўспрымаецца беларускае партнёрства. „Інтэграцыя" і далей у нас аднабаковая. Адсутнасць абавязку вывучання беларускай мовы ў такіх асяроддзях, як Нараўская гміна, вядзе ўжо з малых гадоў чалавека якраз да дэзінтэграцыі грамадства.

### Вучні з Трасцянкі

хацелі б і далей вучыцца беларускай мове. Хваляць сваю настаўніцу Анну Мінько, якая гэты прадмет трактуе „як абавязак перад родным". Заслуга настаўніцы і ў тым, што прыцягнула яна да беларускасці ўсіх разумных хлапчукоў і дзяўчат. У Трасцянцы, як мала дзе, пераважаюць сімпатычныя хлопцы.

**ГАННА КАНДРАЦЮК**
**Фота аўтаркі**

*6 сакавіка г.г. арганізацыйны камітэт Таварыства „Беларускі бізнес-клуб" правядзе ў Беластоку першую сустрэчу сваіх членаў. Зацікаўленым асобам, якія яшчэ не паспелі запісацца або і наогул не ведаюць пра такую ініцыятыву, прапануем фрагменты статута, якія тычацца мэтаў дзейнасці гэтай арганізацыі.*

* * *

# БЕЛАРУСКІ БІЗНЕС-КЛУБ

**Мэты дзейнасці Беларускага бізнес-клуба (ББК):**

1. Развіццё гаспадарчай, грамадска-самаўрадавай, культурна-асветнай і турыстычнай актыўнасці беларускай нацыянальнай меншасці ў Рэчыпаспалітай Польскай і яе інтэграцыі з працэсамі перабудовы і развіцця Рэчыпаспалітай Польскай.

2. Садзейнічанне з рознымі грамадска-палітычнымі асяроддзямі, самаўрадавымі ўстановамі, урадавымі органамі Рэчыпаспалітай Польскай і Рэспублікі Беларусь у напрамку развіцця супрацоўніцтва і добрага суседства паміж польскім і беларускім народамі.

**ББК ажыццяўляе свае мэты галоўным чынам шляхам:**

1. Вядзення культурнай, асветнай, грамадска-гуманітарнай працы, аховы натуральнага асяроддзя і ландшафту, музейнай справы і аховы помнікаў даўніны, а таксама інфармацыйнай, журналіцкай, выдавецкай, папулярызатарскай, бібліятэчнай, адукацыйнай, навукова-канструктарскай, мастацкай, спартыўнай і турыстычнай дзейнасці.

2. Дапамогі членам ББК у выкананні іх ініцыятываў у галіне развіцця гваспадарчага, навуковага, тэхнічнага, культурнага, турыстычнага і інвестыцыйнага супрацоўніцтва, арганізацыі краёвых і замежных стажыровак для моладзі.

3. Распрацоўвання рэкамендацый на карысць членаў ББК у розных галінах.

4. Стварэння плоскасцяў супрацоўніцтва і форумаў для дыскусій з юрыдычнымі і фізічнымі асобамі, грамадскімі арганізацыямі, дзяржаўнай і самаўрадавай адміністрацыяй, дыпламатычнымі і гандлёвымі прадстаўніцтвамі іншых дзяржаў, цэнтрамі і таварыствамі замежнага гандлю, навуковымі, культурнымі і канфесійнымі асяроддзямі ў краіне і за мяжой, асабліва ў Рэспубліцы Беларусь і Рэчыпаспалітай Польскай.

5. Развіцця гаспадарчага і культурнага супрацоўніцтва паміж Польшчай і Беларуссю ў выніку аналізу прамыслова-гандлёва-паслуговых рынкаў абедзвюх дзяржаў, а таксама ўзаемнага абмену інфармацыяй, неабходнай у паспяховым вядзенні гаспадарчай дзейнасці, рэкамендацыя і спалучанне гаспадарчых суб'ектаў з гэтых дзяржаў і іншых краін у супольныя прадпрыемствы, у тым ліку з удзелам аб'ектаў, кіруемых членамі ББК.

6. Садзеяння ў арганізацыі і рэалізацыі прадстаўнічых функцый інтарэсаў беларускіх гаспадарчых суб'ектаў у Рэчыпаспалітай Польскай і іншых краінах.

7. Арганізавання спонсарства для ініцыятываў і мерапрыемстваў ББК і іншых беларускіх арганізацый на карысць развіцця супрацоўніцтва, добрага суседства і дружбы паміж Польшчай і Беларуссю, а таксама на карысць гаспадарчага, культурна-асветнага, грамадска-самаўрадавага развіцця беларускай нацыянальнай меншасці ў Рэчыпаспалітай Польскай і за граніцай.

**Члены ББК падзяляюцца на:**

а) звычайных,
б) падтрымоўваючых,
в) ганаровых.

Звычайным членам ББК можа стаць паўналетні грамадзянін Рэчыпаспалітай Польскай і чужаземец, які прагне ўнесці свой уклад працы і фінансавыя сродкі для ажыццяўлення статутных мэтаў ББК, які прад'явіць рэкамендацыі двух членаў і які прытрымоўваецца Ганаровага кодэксу члена ББК і іншых рашэнняў статута таварыства і пастаноў улад ББК.

Падтрымоўваючым членам можа стаць польская або замежная фізічная або юрыдычная асоба, якая падтрымоўвае мэты дзейнасці ББК шляхам абвышчэння даравальнага запісу або сталай складчыны і якая ў матэрыяльны, юрыдычны, арганізацыйны спосабы дапамагае ў выкананні мэтаў ББК у краіне і за мяжой.

Званне Ганаровага члена ББК можа быць прысвоена асабліва заслужанай для ББК асобе па прапанове Галоўнага праўлення ББК.



 

# POSEŁ PLEWA І БЕЛАРУСКІЯ СПРАВЫ

Пасля апошніх парламенцкіх выбараў беларуская меншасць апынулася ў нецікавым становішчы. У цяперашнім Сейме няма дэпутата, які б прадстаўляў беларускія інтарэсы, а дакладней не было. Ад нядаўна з'яўляецца ім спадар Сяргей Плева, па паходжанні беларус, родам з Ласінкі Нараўскай гміны, аднак у Сейм быў абраны са спіска Саюза левых дэмакратаў (дарэчы, найбольшага канкурэнта беларускіх і праваслаўных камітэтаў у змаганні за душы выбаршчыкаў — вось такая цікавінка).

Спадар С. Плева з'яўляецца членам двух сеймавых камісій: па справах будаўніцтва і нацыянальных меншасцей. Менавіта працы гэтай апошняй камісіі была прысвечана сустрэча пасла, якая адбылася 7 лютага г.г. у Беларускім таварыстве. Не пачалася яна надта шчасліва — госць спазніўся на 40 хвілін, з-за важнейшай сустрэчы ў сядзібе СДРП. Неяк адчуваючы сваю віну, сеў ён скромна пры адным са столікаў, хаця вядучы гэтае спаткане Янка Зенюк некалькі разоў запрашаў „дарагога госця" сесці за стол накрыты зялёным сукном.

Спадар пасол у вялікім, але сапраўды вельмі вялікім, скарачэнні расказаў прысутным пра працу згаданых камісій ды наогул пра працу ў Сейме. Усё-такі намнога лепш ён разбіраецца ў справах будаўніцтва і жыллёвых кааператываў, чымсьці нацыянальных меншасцей. Ну, але гэта зразумелае, паколькі з БГКТ звязаны ён быў даволі даўно, а з будаўнічымі кааператывамі вельмі цесна звязаны акурат у апошні час. Але гэта асобная тэма.

А з таго, што гаварыў спадар пасол, выглядае, што ўсё больш-менш адбываецца нармалёва — ідзе падрыхтоўка сеймавага закону аб нацыянальных меншасцях, а Міністэрства культуры і мастацтва на бягучы год плануе адвесці на патрэбы меншасцей традыцыйна ўжо менш рэальна грошай, чымсьці ў папярэднім годзе. У адносінах да БГКТ (так я зразумеў з сустрэчы) нават намінальна менш, як у мінулым годзе. Шкада, што некаторыя прысутныя таварышы не маглі зразумець прычыну такой сітуацыі. Не таму БГКТ атрымае менш, што грошы атрымаюць яшчэ і іншыя беларускія арганізацыі, але таму, што палітыка польскіх улад (у тым ліку і „лявіцы") з'яўляецца такой, а не іншай. Ці правыя, ці левыя за стырном улады — гэта не мае тут вялікага значэння, таксама, калі ідзе пра кадравую палітыку на ваяводскім узроўні. Ну, але не кожны гэта разумее. У гэтым месцы, калі ідзе гутарка пра грошы, то варта заўважыць, што БДА — як палітычная партыя, не можа атрымліваць фінансавых датацый, а Звяз беларускай моладзі звычайна не хацеў нават прасіць нейкіх срэбнікаў ад польскіх улад.

А вяртаючыся да сустрэчы. На маё вялікае здзіўленне, ні праблемы нацыянальных меншасцей, ні тым больш будаўніцтва, не дамінавалі ў дыскусіі, але запаланілі яе камбатанцка-разліковыя справы.

„My, weterani pracy lewicowej, utrwalacze władzy ludowej, хочам, каб нам вярнулі нашыя правы. Бо гэта крыўда для беларускага асяроддзя", — гаварылі амаль згодным хорам на польскай і беларускай мовах — пажылыя людзі. „Бандытаў з НСЗ і ВіН зараз услаўляецца як герояў, а нас, былых армоўцаў, пазбаўляецца заслужаных правоў. Трэба гэтыя справы хутка вырашыць у Сейме. Не таму мы галасавалі на СЛД, каб нашыя правы так зняважаліся", — паўтаралі ветэраны.

Іншае, што выклікала крыху эмоцый — гэта надыходзячыя выбары ў самаўрады. „Не патрэбныя нам ніякія беларускія, ні праваслаўныя камітэты. Мусім ісці ў вялікай кааліцыі, разам з партыяй, лявіцай, Sojuszem Ruchu Demokratycznego", — запрапанаваў нехта. Спадар пасол, па меры магчымасці, адказваў на пытанні, у іншых впадках, адсылаў да пасольскага бюро СДРП, або толькі запісваў некаторыя заўвагі.

Нехта з прысутных дзеячоў БГКТ усю віну за змяншэнне датацыі на дзейнасць Таварыства склаў на „паню з міністэрства" (Багумілу Бэрдыхоўскую). „Ona torpeduje wszystkie inicjatywy BTSK".„Nie znam tej pani, słyszałem dużo, ale jej nie znam", — адказаў госць.

— Мы павінны спаткацца, усе беларускія асяроддзі, групоўкі, апрацаваць нейкую супольную платформу працы, жыць згодна, — закончыў традыцыйнымі змякчальнымі словамі спадар пасол Сяргей Плева.

ЮРКА ЛЯШЧЫНСКІ,
Radio Białystok S.A.

VI З'ЕЗД БАС

# Не так кепска, як яно выглядае

Немнагалюдным быў VI З'езд БАСу, які адбыўся 19 лютага ў Беластоку — усяго 14 дэлегатаў з Беластока і Варшавы. Усё-такі, засталося ад яго добрае ўражанне.

Як сцвердзіў у сваёй справаздачы прэзідэнт БАС Юрка Сульжык, летась адбыліся ўсе традыцыйныя, арганізаваныя БАСам галоўныя мерапрыемствы: святкаванне 25 Сакавіка (у Варшаве, а ў Беластоку — супольна з Беларускім саюзам), Купалле, рэйд „Бацькаўшчына", „Басовішча", вогнішча падчас маладзёжнага паломніцтва на Святую Гару Грабарку, атрасіны (у Беластоку і ў Варшаве). Выдаваўся студэнцкі часопіс „Сустрэчы". Апрача гэтага ўпершыню арганізаваная была „Бардаўская ноч" у Варшаве.

Юрка Сульжык закрануў таксама прынцыповыя справы. Паводле яго, існуе думка, быццам бы БАС распадаецца ды невядома колькі ў яго сяброў. На думку прэзідэнта, стан БАСу адлюстроўвае проста агульную атмасферу ў студэнцкім асяроддзі. Цяпер іншы час, як калісь. Штудзіраваць зараз цяжэй і ў сувязі з гэтым не хапае ахвотных да грамадскай працы. Тым не менш, на арганізаваныя БАСам мерапрыемствы сходзіцца надалей вельмі многа людзей. „Думаю, што ўсё не так кепска, як яно выглядае", — закончыў прэзідэнт.

Сапраўды, жменька сабраўшыхся дэлегатаў ніякім чынам не напаміналa прадстаўнікоў разваленай арганізацыі. Нарады ішлі ў вясёлым настроі, да чаго, безумоўна, прычыніліся жарты Валіка Стральчука ды прысутнасць аднагадовай Гандзі Пякарскай. Была нават прапанова, каб адразу яе выбраць у Галоўную раду, як першакурсніцу. Выказванне самой Гандзі наконт прапановы, не ўдалося, на жаль, атрымаць.

З'езд вырашыў арганізаваць сёлета ўсе традыцыйныя мерапрыемствы і выбраў новае кіраўніцтва БАСу. Прэзідэнтам аднагалосна быў перавыбраны Юрка Сульжык, студэнт V курса гісторыі Варшаўскага ўніверсітэта. У Галоўную раду ўвайшлі: Анна Адамік і Гражына Адамік, студэнткі IV курса эканоміі Філіяла Варшаўскага ўніверсітэта ў Беластоку, Ян Карпюк, студэнт V курса тэхналогіі дрэваапрацоўкі Галоўнай школы сельскай гаспадаркі ў Варшаве, Аліна Каўбасюк, студэнтка III курса эканоміі Філіяла ВУ ў Беластоку, Яраслаў Паўлючук, выпускнік юрыдычнага факультэта Філіяла ВУ ў Беластоку, цяпер аплікант у пракуратуры, Анна Сапяжынская, студэнтка I курса тэалогіі Хрысціянскай тэалагічнай акадэміі ў Варшаве і Дарота Сульжык, студэнтка IV курса польскай філалогіі Філіяла ВУ ў Беластоку. У Галоўную раду ўваходзіць таксама Яраслаў Лукашук, старшыня варшаўскага гуртка, студэнт III курса лясніцтва Галоўнай школы сельскай гаспадаркі ў Варшаве.

Новаму кіраўніцтву БАСу выпаў незайздросны час дзейнасці. Безумоўна, сённяшняе студэнцкае асяроддзе пазбаўлена пачуцця грамадскай місіі, якім былі авалоданы пачынальнікі БАСу. З гэтай прычыны неабходна знайсці такія формы дзеяння, якія адпавядаюць новай рэчаіснасці. Думаю, гэтыя формы будуць знойдзены.

БАС з'яўляецца ўжо гістарычнай арганізацыяй, аб чым сведчыць кніжка, прысвечаная студэнцкаму руху, напісаная Яўгенам Вапам і Славамірам Іванюком (кніжка рыхтуецца ўжо да друку). „Гістарычная", не значыць „якая адышла ў гісторыю". Можна спадзявацца, што будзе каму запісваць наступныя раздзелы басаўскай гісторыі.

АЛЕГ ЛАТЫШОНАК

# Запрашэньне

26—31 ліпеня 1994 года старажытнейшы горад Беларусі — Берасьце адзначыць сваё 975 угодкі. У рамках сьвяткаваньня мае адбыцца фэст берасьцейцаў сьвету й навуковая канфэрэнцыя: „Гісторыя й сучаснасьць Берасьцейшчыны".

Пад час канфэрэнцыі плянуецца разглядзець пытаньні па наступных накірунках:
— Грамадзтва, рухі й асобы ў сьвятле палітычных падзелаў (праблемы самасьвядомасьці, культуры, навукі й г.д.);
— Гісторыя, самакіраваньне, краязнаўства;
— Рэлігійныя працэсы ва ўмовах шматканфэсыйнасьці;
— Праблемы вывучэньня, захаваньня, пошуку й вяртаньня матэрыяльна-культурных каштоўнасьцяў Берасьцейшчыны (рухомыя й нерухомыя помнікі, архівы, бібліятэкі, архітэктура, археалогія й г.д.);
— Эканамічныя стасункі рэгіёну: рэтраспэктыва й перспэктыва.

Погляд на сучасную Эўропу праз гістарычны лёс Берасьцейшчыны; асэнсаваньне ролі незалежнасьці Беларусі ў варунках новага эўрапейскага супольніцтва; абгрунтаваньне неабходнасьці стварэньня рэгіянальнага навукова-дасьледчага цэнтра — мэты гэтае канфэрэнцыі.

Шчыра запрашаем усіх зацікаўленых узяць удзел у гэтай канфэрэнцыі. Просім даслаць рэфэрат на тэму магчымага дакладу не пазьней за 1 красавіка 1994 года. Даклады будуць выдадзены ў зборніку навуковых матэрыялаў па заканчэньні канфэрэнцыі.

Зьвяртайцеся па адрасе:
— Рэспубліка Беларусь, 224016, г. Берасьце, бульв. Касманаўтаў, 48, Абласная бібліятэка, сакратару аргкамітэту канфэрэнцыі сп. Тамары Муха.
— Тэлефон для даведак: (016-22) 3-21-11, факс 3-95-94 (з адзнакаю „для Старога гораду").

Аргкамітэт

# ЭТНІЧНЫЯ КАНФЛІКТЫ Ў ТЭОРЫІ

Семінар „Пагранічча. Сацыялагічныя даследаванні", які вядзе праф. Андрэй Садоўскі на Філіяле Варшаўскага ўніверсітэта паволі магчыма ў краявідзе навуковага і грамадскага жыцця ў Беластоку. У панядзелак 14 лютага на гэтым семінары выступіў праф. Гжэгаж Бабінскі, сацыёлаг з Паланійнага інстытута Ягелонскага ўніверсітэта ў Кракаве. Тэмай ягонага даклада былі „Этнічныя канфлікты".

Дакладчык прадставіў тэарэтычныя падыходы да праблемы нацыяналізму і этнічных канфліктаў. Нацыяналізм ён схіляецца разумець як „стаўленне дамаганняў ад імя нацыі", такім чынам як нешта неабавязкова адмоўнае. Падкрэсліў прытым калектыўны характар нацыяналізму і яго актывістычны характар, у адрозненне ад нацыянальнай свядомасці.

На думку прафесара Бабінскага, нацыянальная дзяржава мусіць нараджаць канфлікты, а прынцып нацыянальнай самастойнасці нарадзіў болей праблемаў, чымсьці іх вырашыў. Этнічных канфліктаў можна пазбегчы, калі існуе супольная пагроза з іншага боку, або знаходзяцца супольныя мэты. Наогул, у сучасным свеце, паводле дакладчыка, не існуе эканамічнай патрэбы этнічнай экспансіі, што памяншае пагрозу ўзнікнення канфліктаў.

У дыскусіі дакладчык выказаў сумненне адносна магчымасці прадухілення этнічных канфліктаў метадамі сацыятэхнікі. Вядома толькі, што такія канфлікты лягчэй выклікаць, чымсьці іх апанаваць. Праф. Бабінскі прынцыпова адказваўся ад нейкіх практычных прагнозаў адносна магчымасці выбуху этнічных канфліктаў у нашым кутку Еўропы, сцвярджаючы бяссілле навукі на гэтым полі. Як прыклад падаў свайго югаслаўскага сябра прафесара, які не ўяўляў сабе магчымасці выбуху такога канфлікту ў ягонай роднай краіне.

Усё-такі, праф. Бабінскі рызыкнуў тэзіс, што ў Польшчы найбольш напружаныя польска-нямецкія адносіны. Сітуацыю на Беласточчыне кракаўскі госць бачыць як менш пагрозлівую ды, безумоўна, хацеў бы каб так і было, з увагі на сваю жонку-беларуску.

АЛЕГ ЛАТЫШОНАК

# ЖЫРЫНОЎСКІ ДАЕ АДКАЗЫ

У „Ніве" н-р 5 я прачытаў артыкул а. Канстанціна Бандарука „Умом Расею не паняць". Гэта дзіўна, што жывучы ў Мюнхене, не можна „паняць Расею". Я прапаную а. Канстанціну прыехаць у Польшчу і паспрабаваць зразумець, што тут робіцца, куды ідзе гэтая дзяржава. Прэмся на захад, а там нас не хочуць, адкідаем усё, што ўсходам пахне і ніхто ўжо не ведае, чаго ў сапраўднасці хочам.

Не любяць тут Жырыноўскага за яго выказванні. А ёсць каго любіць? Быў я нядаўна ў Беластоку. На аўтавакзале ў кнігарні ляжаць кніжкі, а на самым пачэсным месцы: „Adolf Hitler". На вокладцы герой са сваімі прэтарыянцамі. Выкінулі Сталіна, Леніна і Дзяржынскага, а на іх месцы паставілі Гітлера і яго кампанію, удзячныя, што так адважна змагаўся ён з камунізмам. Чаму тады не любіць Жырыноўскага?

Яшчэ пры Брэжневе прыйшлося мне пабываць у Гародні акурат на Новы год. Раней на цэнтральнай плошчы стаяла вялікая ёлка, людзі таўпіліся, танцавалі, спявалі, цешыліся жыццём. А сёлета хто быў на Новы год у Гародні, той бачыў: ёлка была, але не такая як калісьці, без лямпачак, на вуліцы — пуста, у дамах — холадна, з крана цячэ халодная вада. Чаму так сталася? Жырыноўскі дае зразумелыя ўсім адказы.

ДЗЯДЗЬКА ЗАХАР




Унук Марысін, васемнаццацігадовы Юрась, забіў свінчо Гандзі падвесну. Даў абушком у лоб, ашаламіў, і закалоў умела, піхнуўшы швайку проста ў аорту. Свінка крыкнула, паткнулася і бухнула крывёю. А потым бегла, бач, аж на другі паверх вілы Гандзіных сваякоў, уцякала з адчайным енкам па ўсходах, шаравала мяккім жыватом па мармуровых прыступках, аж уткнулася сухім гарачым лычом у Гандзін прыпол.

Не змагла ўцячы Гандзя ад свінячае смерці на пакоі.

* * *

... Прыехала Гандзя з вёскі ў Бельск разам з маленькім дробным парсючком. Паклала яго ў „летняй кухні" свае сястры. З туга завязанага кужалёвага мяшка заенчыў ён і мяшок пакоўзаўся па слізкай, пакрытай пліткай падлозе.

— Гандзя, што ты сюды прывалакла? Не будзе тут табе ніякіх свіней! Хочаш, гадуй іх у сваёй Маліноўцы. Ты хочаш, каб Мірык адправіў нас абедзве назад? Тут панская хата, а не якісь хляўчук!..

Гандзя падняла на калені рухавы мяшок, папраўлялася на зэдліку, расшпіліла першыя гузікі цвёрдай ад марозу балоневай курткі, выцягнула з кішэні пакамечаную мужчынскую насоўку, з шумам выцерла балючы нос. Крыху аслабіла завязку мяшка, каб парасё падыхала, чулліва ўсунула руку ў сярэдзіну.

— Ну, што, як, кажы, — Гандзіна старэйшая сястра змахнула з цыраты на стале крышыны, у кубачак насыпала гарбаты, у разетку ўваткнула малы падарожны кіпяцільнік.

Гандзя была галодная, пад'ела б чаго, хоць бы супу, не толькі гарбаты. Быў лістападаўскі ранні вечар, а столькі ж ехала з вёскі — добры кавалак аўтобусам, потым пару прыпынкаў цягнікам. Уцякла з уласнае хаты, ад свайго Паўла. Куды ж было ёй ехаць, як не да сястры?!

Марыся шмат гадоў жыла ў сына ў Бельску, тры гады будзе, як у навюткай віле. Гаспадарку дапамагала весці, праўнукаў ужо няньчыла. Яшчэ здаровая, хаця старэйшая ад Гандзі на пятнаццаць гадоў. Жыла цяпер, праўда, у летняй кухні, але гэта, казала, з выбару — не мела ўжо сілы хадзіць па паверхах. Старалася яшчэ і чым-нечым дапамагаць, але практычна жыла за сваё, хапала ёй свае пенсіі, хоць невялічкай, але магла што і ўнукам купіць, і праўнучкам. Не без значэння было хіба і тое, што і ў гэты дом свае грошы ўваліла, і да машыны далажылася... Глядзела цяпер на яе, Гандзю з парасяткам на каленях, сваімі выцвілымі, але жывымі вачыма. Гандзі, вось, за шэсцьдзесят, але людзі не сказалі б, што гэта яна, Марыся, яе калісьці няньчыла, што гэта Марыся дала жыццё паўтузіну дзяцей, павыхоўвала іх, пагадавала, у свет пусціла, і ўнукаў пагадавала і гэтак жа выправіла, і вось прабабка ўжо... Акуратна падстрыжаная, у чыстым хвартушку на спраўным стане, у цёплых, абшытых пухам тапцях яна стаяла над сваёй сястрою ў зашмальцаванай балонцы, з парасяткам, бы дзіцём, якога ніколі ў яе не было, на руках. Ні дзяцей, ні мужа, якога вось толькі што пакінула на пушчанскім хутары...

— Сядзі, сядзі, зараз тваё парасё пусцім у шопку, не павінна замерзнуць, не бойся! Пераначуеш у мяне тут. Не думаеш хіба на старасць ісці ў свет? Не ў тваіх гадах, Гандзя! А што людзі на тое скажуць, ты падумала?! Гэта ж грэх! Ды і ці дасць ён сабе рады, твой Павал? Загіне без бабы! Ты падумала?

Парсючок заварушыўся, стукнуў балюча капыткамі ў Гандзіны грудзі. Кінула яго на падлогу. Заенчаў, пасунуўся ў бок прыпечка, дзе заціх.

— Падумала, Марыся... Ты толькі хоць не выганяй мяне. Ды што там, пайду ў людзі, можа, прыме хто. Буду дзяцей чужым няньчыць, мыць, варыць... Магу апекавацца якім старэчам...

— Ты, Гандзя, сама паглядзі, што і табе незадоўга вады падаць трэба будзе! А твой чалавек? Ці Павал такі зноў кепскі? Усе ж п'юць па вёсках, нічога не зробіш! Можа, гэта ў яго ўсё ад таго пайшло, што дзетак сваіх у вас няма? Няма гаспадарку каму пакінуць...

— Нікому няма, калі нават у каго дзеці і ёсць. Мы там усе пагінем, Марыся.

Марыся заліла гарбату кіпетнем, з шафкі дастала купны пірог.

— На, Гандзя, пакуль што гэтага паеш. Мірыкавых ніколі дома няма, а сёння вось паехалі на вяселле. То я і не гатавала сабе нічога. А парасё давай вынясем, не замерзне, а то зараз можа яму на двор захочацца...

— Не, лепш яму тут будзе. Вось вашыя сабакі такія злосныя, яшчэ што яму зробяць, возьмуць пакусаюць... Або яшчэ хто яго ўкрадзе...

Пераначавалі на ляжанцы за печкай. Ноччу Марыся выходзіла, падкідала вугаль у печку цэнтральнага ацяплення. Тут, у летняй кухні сцяноўка доўга трымала цяпло, Гандзя добра пагрэла спіну. Парасятка стагнала ў сенцах, бразгала вёдрамі, стукала ў сценку. Тры сабакі, якіх спусціла з ланцугоў Марыся, пранасіліся па панадворку і агародзе, брахалі, дзерлі пад дзвярыма, — пэўна, счулі жывёлу. Дыхалі цяжка пад парогам, скрабліся, а тады свінка квічэла з перапуду і бегла ў другі кут, перакідаючы цэбрыкі.

Марыся паправілася на ляжанцы. Не спала.

— Ведаеш, цесна ўжо маім у віле, — сказала з натугаю. — Вось унукі іхнія паўырасталі, кожнаму трэба свой пакой. Юрась будуецца... Ды мне тут лепш, прывыкла я да жыцця ўнізе... Маюць, ведаеш, сваю служанку: прыбірае, гатуе. Не трэба мне лазіць па паверхах... Вось а тут і гарод прыгожы, і сабакі добрыя, хоць злосныя, ды мяне любяць, то і бяспечна жывецца. Я ж іх таксама ад шчанючкоў пагадавала...

— Марыся, колькі ты ў Бельску ўжо будзеш?

— А, з дваццаць, як няма майго Мікіты, а, здаецца, быццам учора было... Гандзя, не пакідай ты Паўла. Так цяжка быць аднаму...

— Не-не. Я тут застануся, калі ты не супраць.

— І калі нічога не скажуць м а е.

Марысіны не мелі нічога супраць. Прынамсі, нічога не сказалі. У Гандзі быў свой грош. На падворку не замінала, на пакоі не прасілася.

* * *

Праз два гады пасля, калі Марысю правялі на гарадскія могілкі, у сасновай труне (грош на яе ў чорным вузельчыку трымала за іконкай, разам з шэрай грамнічкаю яшчэ са свайго вянца), Гандзя засталася адна жыць тутка. Парсючок рос харошы, гладкі. Выпускала яго Гандзя пабегаць з сабакамі па агародзе вечарамі, калі гаспадароў не было дома. І супраць свінча нічога Марысіны не мелі.

Закалоў Гандзіну свінку перад Вялікаднем Марысін наймалодшы ўнук. Не хацела Гандзя таго мяса есці, хаця каўбасы давялося ёй рабіць. Круціла ноччу ручкай мясарэзкі і плакала, а пад дзвярыма нецярпліва саплі Рэкс, Азор і Тарзан.

*МІХАСЬ АНДРАСЮК*

## малітва

дзяцінства край, о манастыр
бязгрэшны ты і беззаганны
прайшоўшы свет уздоўж і ўшыр
нясу табе адзіны дар:
і грэх, і пакаянне

заўжды ахінеш, калі ноч
павісне літургіяй чорнай,
каменне, што нам кінуў хтось
у агароды сну і шчасця,
змалоўшы ў пабацькоўскіх жорнах
зменіш у пшанічны хлеб
і ў горкае віно прычасця

дзяцінства край, о манастыр
заваяваць цябе не зможа
ніякі тактык ні стратэг
у недаступных бездарожжах,
вышэй зямлі, дзе вечны снег,
рэлікт? рэлквію? хто знае,
нашу цябе я асцярожна
і асцярожна апяваю



*Малюнак Міколы Давідзюка*

## алегорыі

мае неба белым кап'ём
як хустку цёткі Хвядоры
трымалі над галавой
тры алегорыі

а гэта першая была
як ландыш чамусьці сіняя
заўжды стаяла ўздоўж сяла
заклятая ідэальнай лініяй

другая зноў была як след
з карчмы ў анёльскае пахмелле
і танцавала бы валет
у нарачонай на вяселлі

а трэцяя была як боль
рашэнняў канчатковых
перападлік вяла з сабой
гулянкаў грэшных і здаровых

аж хтосьці кінуў у кап'ё
кап'ём ці жарту ці гісторыі
а хтосьці крыкнуў: дай прап'ем
усе тры алегорыі

*

першую выпілі вінам
другую пякучай брагаю
трэцюю палыном
і бацькавым пасагам
і цягнем у неба птушкі з паперы
белай кабылай
і верым
што маюць крылы

*БАРЫС РУСКО*

## Піраміда

Пункт Сірыуса ў геаметры пахіленых сцен.
І вока сонца.
І намер месяца.
І знак Егіпта.
І час у шкатулцы.
І смерць пагашана.
І застылы персцень святара.
А ўсё пранікае і нішто не вяртаецца.
Ніл уцякае.
Толькі пясок лічыць век Піраміды.

## Непаўторнасць

Ружы ўсюды прыгожыя
(мала што з калючкамі).
І яблыні цвітуць дзіўнай красою.
І матылі ў лесе — барвовыя жамчужынкі.
І неспакойныя зоры — гармонія сонца.
Ды толькі ў вачах блакіт — гасне неба.
І ў лёгкіх кроках павеў вясны.
І ў чулым шэпце гарачая ціш.
Выключная Ты, як слова ўва сне,
бо там мой танец удосталь
і ландышавых веек духмень...
І кахаю не скрытна, не так, як на яве.

Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

## САКАВІК

З кожным днём сонца прыгравае мацней. Пад яго промнямі пачынае раставаць снег. Спачатку толькі з паўднёвага боку крутых схілаў, па берагах рэк, ля гаспадарчых пабудоў. Ноччу ящчэ бываюць замаразкі — зіма не хоча здавацца. Талая вада, што сцякае са стрэх, застывае ў доўгія гірлянды ледзякоў. Толькі прыгрэе сонца, яны на вачах памяншаюцца, „плачуць" частымі буйнымі слязамі — пачынаецца капеж.

Прыкметна скараціліся ночы. Сонца глядзіць ласкава і прыветліва. Нават паветра становіцца больш свежым і празрыстым, напаўняецца водарам набухаючых пупышак.

Птушкі абвяшчаюць наваколле аб надыходзе вясны. Ї раней за ўсіх — гракі. Яны першымі вяртаюцца з далёкіх краін і заклапочана пахаджваюць па гразкіх дарогах, да сіняву чорныя і важныя.

Абуджаецца і лес. Снег пад дрэвамі падтае і асядзе, на ўзлесках і высечках узнікаюць праталіны, на якіх вось-вось з'явяцца першыя веснавыя кветкі. Пачынаецца рух соку ў клёна, а крышачку пазней — у бярэзіны. Вярба ўжо ў сваё першае веснавое ўбранне апранулася — у залацістыя пушыстыя коцікі. Пачынаюць распускаць завушнічкі алешыны і бярозы, зелянее клён.

З прагалку вясновага лесу даносяцца загадкавыя булькаючыя гукі. Гэта пачынаюць такаваць глушцы. На раннім світанку магутныя птушкі злятаюцца да месцаў такавішча. Самцы спяваюць, б'юцца паміж сабой. У час спеваў глушэц нічога не чуе (адсюль назва).

Па-ранейшаму цяжка ў лесе капытным. Снег, які растае, застывае за ноч у суцэльны шарпак, які ломіцца пад капытамі, і вострыя яго краі балюча параньваюць ногі. А ворагі тут як тут: і ваўкі праследуюць, і рысь падсцерагае.

На сухах дрэў цяпер можна ўбачыць пасмы поўсці — пачалася лінька ў пушных звяроў. Ї каб паскорыць яе, яны чапляюцца, труцца аб дрэвы, пакідаючы меткі.

З раніцы да вечара снуе ў вершалінах дрэў вавёрка. Канчаюцца прыпапсы ў яе кладоўках. А цяпер ёй як ніколі патрэбен корм — з'явілася патомства, па 6-7 малышоў пішчаць у дуплах, патрабуюць ежы.

Але ім грэх скардзіцца. У дупле цёпла і ўтульна. А вось зайчанятам не пазайздросціш. Яшчэ па начах холадна, зрэдку цярушыць снег, а маці нарадзіла іх на свет. У іх нават назва з-за гэтага асаблівая ёсць — шарпавічкі. Але і яны не гаруюць. Насмокчуцца цёпленькага малачка — і сядзяць смірненька.

Павылазілі з зімовых сховішчаў і грэюцца на сонцы павукі і мухі. Паяўляюцца першыя матылькі. А працавітыя пчолы ўжо ўюцца над шаўкавістымі завіткамі вярбы, збіраюць першы ў гэтым годзе ўзятак. Усё жывое радуецца цяплу і вітае надыход вясны.



*„Мой родны кут, як ты мне мілы..." — гучыць на ўроку беларускай мовы ў Трасцянцы.* **Фота Г. Кандрацюк**

## ВЯСЁЛЫ КУТОЧАК

Настаўнік на ўроку польскай мовы звяртаецца да вучняў:
— Хто з вас дасць прыклад, які давядзе праўдзівасць сцвярджэння: не ўсё золата, што свеціцца?
— Гэта ж лысіна майго дзядзькі Міколы! — ускрыквае Ваня.

* * *

— Якое прыгожае ў вас дзіця! — хваліць госць сына Круталевічаў. — Валасы па маме, носік па татку...
— Штонікі па брацiку, швэдрык па сястрычцы!.. — заўважае малы Алесь.

* * *

— Сынок, чаму ты прыклеіў мой здымак у сваім дзённічку? — здзіўляецца бацька.
— Мая настаўніца сказала: Хацелася б мне пабачыць таго разумніка, што так рашае твае задачы!"

* * *

— Коля, чаму ты сёння так спозніўся на ўрок? — пытаецца настаўніца.
— Я ішоў у школу, і напаў на мяне ўзброены бандыт.
— І нічога кепскага табе не зрабіў?
— Забраў мой сшытак з сачыненнем!

* * *

Урок матэматыкі. Настаўнік дыктуе заданне:
— Дзесяць касцоў скасілі луг на працягу гадзіны. Колькі часу зойме скасіць луг пятнаццаці касцам?
— Але ж луг нельга касіць два разы! — махае галавой Юрка.

* * *

— Коля, чаму ты спісваеш заданне са сшытка Адама?
— Гэта ён спісваў з майго сшытка, а я цяпер правяраю, ці не зрабіў ён памылкі!

* * *

Бацька правярае, чаго навучыўся ў школе сын:
— Падумай добра, колькі гэта будзе: ты меў дзесяць яблыкаў, з'еў два. Колькі ў цябе іх засталося?
— Не ведаю, мы ў школе вучыліся на слівах.

* * *

— Што зрабіў Напалеон, калі ўступіў на цэсарскі трон?
— Сеў на ім.

**Сабраў А. ГАЎРЫЛЮК**

## НУЛЁК

Нехта некалі нёс некуды ношку некалак. Нёс, нёс ды знарок выкінуў некалькі некалак. А дзетсадавец Нулёк назбіраў тых некалак. Нямала дзён мінула, і Нулёк стаў нязнайкам — непаседлівым, непаслухмяным.

Нялёгка выхавацельцы Ніне Нічыпараўне:
— Нулёк, напішы Н.
— Не ўмею.
— Назаві, Нулёк, дзяцей, імёны якіх пачынаюцца з Н.
Насця, Ніна, Надзя, Ніка, Нора, Нюра, Нюся намякаюць на сябе. А някемлівец нудзіцца:
— Не знаю.
— Намалюй, Нулёк, незабудкі.
— Неахвота.
— Нулёк, колькі ножак у сараканожкі?
— Не ведаю...
Ну і Нулёк, ну і нязнайка!
Наляцела нечакана навальніца. На небе — ноч. Нічога наўкол нябачна. Нейкі насаты нячысцік нібыта наваліўся на Нулька, насміхаецца:
— Нязнайка-нулевічок, наглытаўся некалак незнарок!..
Нулёк ад нечаканай навалы напалохаўся:
— Ратуйце мяне!..
Нюра, Нюся, Насця, Навум нагадваюць нязнайку ягоныя надакучлівыя некалкі:
— Не магу!.. Не хачу!.. Не буду!.. Не ўмею!.. Не жадаю!.. Не і не!..
Навальніца зноў насунулуся на нязнайку. Насаты нячысцік зноў наваліўся на небараку. Нулёк шпурнуў у назолу адну некалку. Грымнуў пярун у небе. Кінуў новую — промні сонца наўкол. Ну і выкінуў праз акно некалі сабраныя некалкі. Не нарадуецца Нулёк, не нацешыцца!
— Ніна Нічыпараўна, не буду ніколі некаць. Сорамна!
Нулёк ахвотна піша Н. Незабудкі намаляваў. Знайшоў Н у імёнах Насці, Ніны, Надзі, Нікі, Норы, Нюры, Нюсі. Налічыў па сорак ножак у сараканожак...
Малайчына, Нулёк!

**УЛАДЗІМІР ЛІПСКІ**

## ПРЫГОДЫ МЫШКІ ПІК-ПІК

### МЫШКА ПІК-ПІК СКНАРНІЧАЕ

Паехалі мама, тата і Веранічка з Максімам у вёску. Пепіта засталася пільнаваць кватэру, а Пік-Пік не захацела. Давялося браць мышку з сабою.

У вёсцы Пік-Пік хутка асвоілася, хаця былі там толькі адзін дзень, аблазіла ўсё, што магла, пакаштавала ўсё, што ўнюхала. А перад тым, як вяртацца дадому, тата прапанаваў схадзіць у лес. Мышка Пік-Пік трохі баялася ваўкоў, але пайшла таксама. У лесе было вельмі цікава: ягадкі, грыбы, кветачкі і ўсё бясплатна! Раптам тата сказаў:

— Глядзіце, гэта арэшнік! На гэтым кусце растуць арэхі!

Мышка вельмі ўзрадавалася, бо арэшкі любіла ледзь не больш за цукеркі. Яна адразу пачала скакаць вакол куста і шукаць, але ніводнага арэха не пабачыла.

— Цяпер арэхаў яшчэ няма, — сказаў тата. — Не шукай дарэмна. Папазней, восенню з'явяцца...

Але Пік-Пік не здавалася, і раптам у траве пад кустом натрапіла на арэшак — карычневы, кругленькі... А каля яго — яшчэ некалькі віднеецца... Пік-Пік хуценька, каб ніхто не заўважыў, падабрала арэшкі і запхнула за шчокі. Канечне, яна не скнара, але... Арэшкаў жа так мала...

Усе пашыбавалі дадому, узялі сумкі і рушылі на аўтобус. Мышка шпарка бегла наперадзе, адчуваючы, як арэшкі напаўняюць шчокі.

— Ну як, Пік-Пік, спадабалася табе ў лесе? — пыталася Веранічка.

— М-м... — адказвала мышка, думаючы: „Абы не здагадаліся, што я такія прысмакі нясу...

— Можа, морквачкі даць? — пыталася мама.

— М-м... — гаварыла мышка, думаючы, што не адмовілася б і ад морквачкі...

Веранічка адразу занепакоілася:

— Што з табою, Пік-Пік? Нешта ты маўклівая зрабілася. Ї апетыт страціла... Вой, а шчочка як у цябе раздзьмулася! Зубкі баляць?

— М-м-м... — мыкала Пік-Пік, спрабуючы схаваць арэшкі то за адной шчакой, то за другой...

— Ну так, пэўна, зубкі баляць! — заначыла мама. — Ноччу дадому прыедзем, разбярэмся.

У аўтобусе мышка схавалася на самым дне мамінай сумкі, між Максімкавымі паўзунамі і Веранiччынай лялькай. „З'есці б гэтыя клятыя арэхі, — думала Пік-Пік, — каб не чапляўся больш ніхто..." Але арэшкі чамусьці аказаліся такія цвёрдыя, што не паддаваліся мышыным зубкам. „Каб сапраўды зубы не забалелі" — спалохалася мышка і запхнула арэхі глыбей за шчокі. — „Дома малатком разаб'ю."

Дома тата, як толькі ўгледзеў мышку, што вылазіць з сумкі, зазначыў:

— Гэта натуральны флюс! Неадкладна трэба вырываць хворы зуб, а то падохне жывёліна... Пайду, абцугі вазьму... — і тата пайшоў корпацца ў скрыні з інструментамі, думаючы: „Жывёліна хоць шкодная, але свойская... Па нашых часах і тое набытак... Палякую".

Пік-Пік, спалоханая, схавалася ў норку і выплюнула арэшкі.

— Усё, мае зубкі болей не баляць!

Тата агледзеў мышку з апалымі шчокамі, здзівіўся і паклаў абцугі. А мышка кінулася за малатком: „Хутчэй мне тыя арэхі з'есці... а то столькі перажыванняў з-за іх..."

Але арэхі аказаліся, як адзін, пустыя.

**ЛЮДМІЛА РУБЛЕЎСКАЯ**

# ПАДАРОЖЖА ПА МОВАЗНАВІІ

16

*(працяг з папярэдняга нумара)*

## Шукаю пару

Стваракоцца дзве каманды з аднолькавай колькасцю ўдзельнікаў. Адна задумвае слова-амограф, і адзін з яе членаў дае апісанне прадмета, не называючы яго (напрыклад, 'адрэзак часу' — гэта значыць, што задумана слова *гадзіна*), і дадае: „Шукаю пару!" Удзельнік гульні з другой каманды, які адгадаў задуманае слова, гаворыць: „Знайшоў!" І яны адыходзяць. А гульня працягваецца: абвяшчае свой прадмет другі шукальнік пары і г.д.

Што павінны рабіць тыя, хто знайшоў пару? Па-першае, высветліць, ці правільна яна знойдзена (калі не, то яны вяртаюцца, і шукальнік вядзе пошук далей); па-другое, скласці сказы з амографам і здаць у журы, падпісаўшы лісток. Пасля гэтага яны могуць вярнуцца ў свае каманды і ўзнавіць пошукі, але ўжо іншага слова.

## Адным словам

У часе гульняў з амографамі вы, мабыць, прыйшлі да думкі, што амографы — гэта графічныя амонімы. Так што гаспадыня іх — Графіка. Але і Лексіка мае пэўную ўладу над імі, бо яна пасля гаспадыні Мовы — старэйшая за ўсіх і таму часта кіруе гульнямі разам з іншымі гаспадынямі. Вось цяпер Лексіка і Графіка разам прапануюць уставіць па два патрэбныя словы ў кожны сказ пры наступнай умове: пішуцца гэтыя словы аднолькава, а чытаюцца па-рознаму.

*1) Увесну сярод пасаджаных вучнямі дрэў зазелянела і ... ... . 2) Стары ... ведаў шмат ... . 3) Я захапляўся прыгодамі, далёкімі ... і краінамі і дзяліўся з бацькамі сваімі ... аб будучых падарожжах. 4) Мы ... , што ў нашы ... ўступаюць новыя барацьбіты за мір. 5) Міхась шукаў ... і чуў, як на балоце пачала сваю песню ... . 6) Гэты ... недастаткова высокі — ... яшчэ пяску. 7) Я ... цябе за тое, што ты добра вядзеш катэр, пераадольваючы высокую ... . 8) Усе ... былі ў сваіх клетках, а ў адной з іх ... не было. 9) Я ... траву, а сястрычка варыць ... на снеданне.*

А цяпер складзіце такія сказы са словамі *палі, машына, тушы, марылі, прыклад, густы, пакапаў, завяла, каму, жылы, далі, пліты, сталы, гадзіна, гульні, памяць.*

Ёсць у Графікі з Лексікай і трохварыянтныя амографы, напрыклад:*вясновыя паводкі — паводкі звяроў — нацягнуў паводкі.*

У наступныя жартоўныя сказы ўстаўце такія ж словы:

*10) ... конь даядаў ... гарох, а вакол бегалі ... .*

*11) ... была пра тое, як па-заліхвацку ... скакала ... .*

## Той жа колькасцю...

А цяпер і гаспадыня Лексіка падрыхтавала для вас некалькі заданняў сумесна з гаспадыняй Графікай. Вось словы: *убранне, смеласць, пажар, агароджа, цаліна, агідны, ноша, падмога, вогнішча, дзіця, даліна, напад, павага, вясёлы, спосаб, скрыта, мароз.* Гэтыя словы маюць сінонімы, і не па аднаму. Вам трэба будзе падабраць да кожнага з іх не абы-які сінонім, а з такой жа колькасцю літар. Хто хутчэй?

А гэтыя словы паходзяць з іншых моў: *фурман, рэпліка, рэжым, карціна, мадыстка, кіёск, эскіз, крэдыт, рэестр.* Трэба знайсці сінонімы сярод нашых, беларускіх слоў, але зноў жа — з такой жа колькасцю літар.

Яшчэ заданне, толькі на гэты раз з антонімамі — іх трэба падабраць да дадзеных слоў, і яны таксама павінны мець тую ж колькасць літар: *работа, здароўе, праўда, сябар, святло, вада, перамога, крык, гуманнасць, велікан, чужына, прадзед, юнак, мінулы, салёны, цяжка, плач, учора, цяпер, слабы, блізка, уверх, мужчына.* Словы чытаюцца, антонімы запісваюцца ў слупок; хто не падабраў антонім за дзесяць секунд, адпаведны радок прапускае. У каго пасля праверкі іх будзе больш? Праверка робіцца так: калі словы ўсе прачытаны, кожны падлічвае, колькі ў яго, і запісвае лічбу. Вядучы чытае антонімы зноў (на гэты раз парамі), усе правяраюць правільнасць сваіх запісаў і выкрэсліваюць словы, памылкова запісаныя — не антонімы або не з той жа колькасцю літар. Пасля гэтага ўдакладняецца лічба і выяўляюцца пераможцы.

Можна падбіраць антонімы і да наступных слоў: *актыў, мажор, аналіз, фантастыка, гігант, канкрэтызацыя, бюракратыя.* Абодва антанімічныя словы — іншамоўнага паходжання.

*(працяг у наступным нумары)*

# ПАЗНАЁМІМСЯ

З моладдзю Беласточчыны хочуць пазнаёміцца вучні беларускай школы ў Вільні (7 клас):

**Станкевіч Наташа**: Lietuva, Vilniaus, g. Muitinis 9—5, Stankevič Natalia.

**Станкевіч Віка**: Lietuva, Vilniaus, g. Muitinis 4—38, Stankevič Viktorija.

**Шчадрына Юля**: Lietuva, Vilniaus, g. Architektų 9—49, Ščedrina Julija.

**Місевіч Юля**: Lietuva, Vilniaus, g. Savangriu 35—38, Misevič Julija.

**Крупеня Аксана**: Lietuva, Vilnius, g. Gelvonų, n. 43—14, Krupenia Oksana.

**Дзейкала Света**: Lietuva, Vilnius, g. Staniavičiaus n. 17—29, Deikalo Svetlana.

Вучні 8 класа:

**Цыунель Наташа**: 2320156 Lietuva, Vilnius, Vandentėkio 28—4, Cijunel Nataša.

**Васільева Галя**: 232006, Lietuva, Vilnius, Naugarduko 13—7, Vasiljeva Galia.

**Кушалевіч Аліна**: 232022, Lietuva, Vilnius, Gabijos 19—21, Kuševič Alina.

**Васіленка Максім**: 232015, Lietuva, Vilnius, Petario 4—20, Vasilenka Maksim.

# НА ПРАДВЕСНІ

Пра пару, калі зіма павінна была саступіць месца вясне, у народзе гаварылі: «Люты вады падпусціць, а сакавік падбярэ». Але надта даверяцца лагоднасці першага веснавога месяца было б неабачліва, пакольку зіма ў гэты час яшчэ не здалася: «Марац кусае за палец».

*Усяго добрага ўсім жанчынам — мамам, бабулям, цёцям, сёстрам — жадаюць з намі Светачка, Танюша і Алесік з Гародні.* **Фота М. Лукшы**

# ШКЕЛЬЦЫ

6

*(заканчэнне)*

## СЕНТЫМЕНТАЛЬНАЕ ПАДАРОЖЖА

Тры гады пасля я зноў вучылася ў звычайнай гарадской школе, на вуліцы, якую ўрачы дзіцячай палікліні называлі паміж сабою „рабочае гета". Я часта ўспаміналa лясную школу, асабліва вясной. Акрым таго, хацелася мне паказаць таямнічае месца майго „перавыхавання" з прыкладной „выдатніцы" ў „нармальную" дзяўчынку сваёй сяброўцы па гарадской школе, Ленцы, ад якой (на той час) не мела таямніц. І вось — знаёмая чыгуначная станцыя... Але — ці знаёмая? За тры гады ўсё зрабілася нейкім непазнавальным, чужым...

Доўга блукалі мы з Ленай па лесе, шукаючы патрэбны паварот, і я ўвесь час памылялася. Калі паміж бурштынавых стваолў мільгануліі шэрыя сцены, гэта было зусім нечакана... Няўжо яна, мая школа, такая? Дзе флёр таемнасці, адчуванне прасторы? Пад нагамі рыпела пабітае шкло — я ўспомніла, як мы збіралі тут яго, каб зрабіць мадэль рэльефу да ўрока геаграфіі: на кожным шкельцы трэба было абвесці чарніламі адзін са зрэзаў узгорка (гэтыя ўзгоркі ў геаграфічным атласе нагадвалі нарэзаную вострым нажом вяндліну). Пасля шкельцы накладаліся адно на адно, і з намаляваных абрысаў утваралася аб'ёмнае ўзвышша — маленькая дзіўная цацка...

Мы з Ленай абышлі вучэбны корпус, завярнулі за кут спальнага... Могілкі, прынамсі, засталіся такімі ж... Пралескі і белыя купальніцы аздаблялі стаптаныя магілы, як напамін пра вечную памяць прыроды. Але... не тое... не тое...

Пасля я з сяброўкай доўга гушкаліся на жалезнай качалцы, нядаўна пафарбаванай у атрутна-жоўты колер. Побач блукалі каты — Ленка скарміла імі каўбасу, прыхопленую з дому...

Дарэмна я вырашыла вярнуцца — бо вярнуцца нікуды немагчыма. Тое, што пакідаеш аднойчы, пакідаеш назаўсёды. Разам з тым абрысам сваёй асобы, які адпавядаў таму зрэзу часу... Шкельцы накладваюцца адно на адно, былое яшчэ прасвечвае, але цьмяней, туманісцей... і прыгажэй.

**ЛЮДМІЛА РУБЛЕЎСКАЯ**

# ЛАГАГРЫФ

1. сталіца Нямеччыны, 2. машына для сеяння збожжа, 3. дзіцячая цацка ў выглядзе фігуры чалавека, 4. жыхарка Польшчы, 5. падлога, 6. каранадаш.

Вылучаныя літары складуць назву горада на Беласточчыне з багатай гісторыяй.

Узнагароду за адгаданку з нумара 8 высылаем **Тамашу Асташэвічу** з Бельска.

# ЛІЧЫЛКІ

А ты, коцік, не гуляй,
Начовачкі прыбірай!
Начовачкі склізкі,
Вядзёрачкі блізкі.
Круг абарваўся,
А ты так астаўся.

* * *

Тарана, тарана,
Купіў бацька барана,
Да не скобленага,
Да не доенага.
Матка даіла,
Даёнку пабіла.

* * *

Хто не ўмееш гараць,
Таму хлеба не даць,
Ні капусты, ні бацвінні —
Хай пасець у полі свінні.
Яму свінні дакучылі,
Хутка гараць навучылі.

* * *

Каціласъ каляска
Па сінім масту,
Мост праваліўся,
Каляска — ў ваду.
Не жалка каляскі,
Не жалка маста,
А жалка царэўны:
Яна малада.

## Адказ па „падарожжа"

**Адным словам.** Замест шматкроп'яў — амографы: 1) *зазелянела і Áсіна асíна*; 2) *казáк ведаў шмат кáзак*; 3) *мáрамі — марáмі*; 4) *рáды, што ў нашы радЫ ўступаюць...*; 5) *шукаў каня́... пачала сваю песню кáня*; 6) *нáсып недастаткова высокі — насЫп яшчэ пяску*; 7) *хвалю́ цябе... высокую хвáлю*; 8) *лíсы былі... лісЫ не было*; 9) *кашу́ траву... варыць кáшу...*; 10) *вараны́ конь даядаў вáраны гарох, а вакол бегалі варáны*; 11) *кáзачка была пра тое, як па-заліхвацку казáчка скакала казачкá.*

**Той жа колькасцю...** *Убранне — адзенне; смеласць — мужнасць; пажар — агонь; агароджа — частакол; цаліна — аблога; агідны — прыкры; ноша — груз; падмога — выручка; вогнішча — цяпельца; дзіця — малыш; даліна — нізіна; напад — налёт; павага — пашана; вясёлы — смешны; спосаб — сродак; скрыта — употай; мароз — сцюжа. Фурман — возчык; рэпліка — заўвага; рэжым — уклад; карціна — палатно; мадыстка — краўчыха; кіёск — ларок; эскіз — накід; крэдыт — пазыка; рэестр — спісак. Работа — лянота; здароўе — хвароба; праўда — хлусня; сябар — вораг; святло — цемень; вада — суша; перамога — пройгрыш; крык — ціша; чужына — айчына; прадзед — праўнук; юнак — дзед; мінулы — будучы; салёны — прэсны; цяжка — лёгка; плач — смех; учора — сёння; цяпер — потым; слабы — моцны; блізка — далёка; уверх — уніз; мужчына — жанчына. Актыў — пасіў; мажор — мінор; аналіз — сінтэз; фантастыка — рэальнасць; гігант — пігмей; канкрэтызацыя — абстрактнасць; бюракратыя — дэмакратыя.*

# МЫ ЯШЧЭ НЕ Ў ДОМЕ ЛІТАРАТУРЫ

Да мінулага 93 года будзем мы напэўна яшчэ не раз вяртацца, каб падсумаваць за той час напісанае ды надрукаванае членамі літаратурнага аб'яднання „Белавежа". А прыпомню чытачам „Нівы", што толькі ў той адзін год выйшла друкам ажно адзінаццаць кніг „белавежцаў" — кніг прозы, паэзіі, эсэ, публіцыстыкі. Апрача гэтага апублікавана была і анталогія так званых духоўных вершаў і дзве кнігі перакладаў: адна з англійскай мовы на беларускую, другая — з мовы беларускай на польскую. І так, разам чатырнаццаць кніг. Вось які незвычайны колькасны набытак нашага літаратурнага асяроддзя! І калі засяродзіцца толькі на гэтай лічбе, то лік даволі ўнушальны і як бы павінен поўнасцю заспакойваць нацыянальныя амбіцыі. Гэта ж усё-такі не жарты — хто гэта мог калі раней падумаць, каб толькі на працягу аднаго года ажно чатырнаццаць кніг! У нашых ненармальных умовах!

Пару гадоў назад — быў такі час! — мне здавалася і сэрца расло, што літаратурнае аб'яднанне „Белавежа" паволі, паволі, але ж тым не меней выразна прафесіяналізуецца; што адбываецца здаровы працэс крышталізацыі, фармавання пісьменніцкіх індывідуальнасцяў — хто ўзышоўшы іменна на прафесійны ўзровень не будзе ўжо абы-што сам публікаваць і не будзе абыякава глядзець на творчасць малодшых калегаў.

Тым часам ужо ў 92 годзе некаторыя члены „Белавежы", замарыўшы пабавіцца сам-насам з Музаю літаратуры, „паціху" надрукавалі свае сачыненні самвыдавецкім спосабам. У пісьменніцкім крузе я неаднойчы выказваў занепакоенасць якраз гэтым фактам — фактам таго, што апублікаваныя кніжкі калегаў выйшлі недапрацаванымі, сырымі ў літаратурна-мастацкім і эстэтычным аспектах.

Як паказвае гісторыя літаратуры, кожнае самвыданне ўсюды церпіць крах. Свежым і найлепшым доказам таго правілу ёсць польская кніжная прадукцыя тзв. апазіцыйнай літаратуры. Сёння ўсе, уключна з яе аўтарамі, бачаць у ёй толькі макулатуру. Чаму так? Бо ўсе выдатныя творы прыгожага пісьменства, якія служылі і служаць многім пакаленням ды народам, пакуль дайшлі да чытача, прайшлі прынамсі некалькімі знаўцамі высокай культуры. Гэтак працавалі ўсе знакамітыя творцы Усходу і Захаду. Так рабілі і польскія пісьменнікі Гамбровіч, Віткевіч, Івашкевіч, Анджэеўскі і многія іншыя. Нам жа здаецца, што мы ўсе розумы паз'ядалі.

З кніжных набыткаў найбольш плённага нашага 93 года большасць, на жаль, мае тыя самыя агрэхі непрафесіяналізму. Лёгка змайстраваныя, у спешцы выдадзеныя, дзякуючы вольнаму рынку, многія кнігі, як тыя аднадзёнкі, хутка выкінуцца з памяці як шараговая непатрэбшчына, напісаная абы-якой, стылістычна разлезлай, мовай беларускай ці польскай.

Ці суджана нам павярнуць назад у рэчышча раннеаматарскай пісаніны?

У „Літаратуры і мастацтве", зусім нядаўна, ужо ў гэтым годзе, з'явілася рэцэнзія Алеся Краўцэвіча на твор „Паратунак" Міколы Гайдука. Рэцэнзент звяртае ўвагу якраз на тую генеральную, магістральную праблему ўсёй зараз, паслякамуністычнай, літаратуры, вядома, якая датычыць і нас, „белавежцаў". Нас, можа, перад усім!

Рэцэнзент слушна сцвярджае, што прычынай выхаду ў свет сырых, недапрацаваных, а то і зусім прымітыўна створаных кніг ёсць адсутнасць кантролю за імі з боку прафесіяналаў. Шматлікія творы літаратурнага, а таксама „навуковага і навукова-папулярнага характару **на шляху да чытачоў не праходзяць праз жорсткія фільтры прафесійных рэцэнзій.** (...) У выніку мы бачым, — сцвярджае Алесь Краўцэвіч, — мякка кажучы, вольнае абыходжанне з гісторыяй, безліч метадычных і фактычных памылак і агульны прымітывізм".

„Мы павінны, — піша ў заключэнні рэцэнзент, — заўжды памятаць, што беларускай культуры давядзецца вытрымліваць канкурэнцыю — з культурай расейскай, з масавай культурай Захаду. (...) Поспех можа забяспечыць толькі належны ўзровень. **Таму давайце не будзем „прыніжаць планку" для беларускіх аўтараў,** а пастараемся, наадварот, падвышаць яе".

Не пагадзіцца з гэтым пастулатам можа толькі „нядзельны паэт", той, хто займаецца літаратурнай нібы-творчасцю дзеля запаўнення свайго вольнага часу (бо няма сёння ўжо чаго больш сур'ёзнага яму рабіць). Некаторым „белавежцам" засынае пісьменніцкае сумленне, калі яны чуюць воплескі цваных школьнікаў. Ім вельмі хочацца, каб гэтыя пляскі не сціхалі. Як лёгка пісаць, калі ведаеш, чаго хочуць жэўжыкі! „Белавежцаў" задавальняе тая, нібы назаўсёды, замацаваная за іхнімі творамі гукавая пазітыўная ацэнка нашага маладукаванага сялянства. „Белавежцы" гэтыя як бы не ведаюць, што пункт ацэнкі мастацкай літаратуры не знаходзіцца ў нашых вёсках і нават не ў ліцэях. І тым болей не ў мінулым ён недзе застаўся, не ў перыядзе, скажам, „Нашай нівы". Ацэнка гэта замацаваная ў перспектыве будучыні — зменлівай, вірлівай і не паблажлівай.

З гэтага пункту гледжання мы, „белавежцы", яшчэ не ўвайшлі ў дом літаратуры, але знаходзімся толькі каля яго сцен, з вонку, ад вуліцы, па якой ідзе шматкаляровы тлум і нас з сабой цягне, і мы як бы зноў губляемся ў гэтым ананімным натоўпе.

**ЯН ЧЫКВІН**

# БАЦЬКАЎШЧЫНА, МУЗЫКА, БУДСЛАЎСКАЯ БОЖАЯ МАЦІ І ПАЭЗІЯ

...спадарожнічаюць Пётру Нядзвецкаму праз усё жыццё ў яго думках, журбах, у яго сэрцы як неацэнны скарб.

Памятаю Пётруся з нашых юнацкіх дзён. Русы, высокага росту хлапец, заўсёды вясёлы, прыветлівы, сяброўскі, не расставаўся наперамену то са скрыпкай, то з акардэонам. Захапіў нас знянацку нечаканасцю сваёй творчасці: то вершам, то песняй з собскай музыкай рамантычнага ці патрыятычнага зместу.

Памятаю эйфарыю, выкліканую сярод хлопцаў фактам адкрыцця Беларускай афіцэрскай школы ў 1943 г. Гістарычная як-ніяк падзея. Хоць не давялося стаць нам жаўнерамі, то аднак эмоцыі ад самай свядомасці стварэння беларускага войска распіралі грудзі ды зганялі сон з вачэй. Не заснуў ад гэтай весткі і Пётрусь. За адну ноч паспеў увекавечыць на паперы сваю рэакцыю на гэтую падзею. Неўзабаве, бо літаральна цераз пару дзён, у Менску прагучэла ўжо жаўнерская маршавая песня „Ідуць жаўнеры-беларусы" на словы і мелодыю Пётры Нядзвецкага. Песня выжыла да сягоннняшніх дзён не толькі на эміграцыі. Яе і сённяшнія хлопцы тамсям співаюць. Адкуль гэта ў Пётры ўзялося? Сын чыгуначнага майстра, нарадзіўся ў 1918 г. у ваколіцах Вялейкі. Асіроцелы ад смерці маці ў паўгода ад яго нараджэння, выхаваўся бацькам, што жыў зімў вёсцы Вераб'і. Бацька, сам музыка, хоць разумеў і цаніў талент хлопца, заўважальны ад ранняга дзяцінства, то, аднак, ледзь зводзячы канцы з канцамі, не змог даць яму належнай музычнай адукацыі. Амбітны Пётрусь сам стараўся павышаць веды, ці то пры помачы жаўнерскіх аркестрантаў у галіне музыкі, ці ў настаўнікаў адносна паэзіі. Сарганізаваў у вёсцы фальклорны музычна-спявачы ансамбль, што на фестывалі ў Вялейцы ў 1938 г. здабыў першае месца, а арганізатары фестывалю скіравалі Пётруся на экзамены ў віленскую кансерваторыю. Экзаменатарша, скрыпачка Ванда Ледухоўская, праверыўшы яго здольнасці і прывезеную „Калыханку" ўласнай кампазіцыі, сцвердзіла, што не стварэнне магчымасці вучыцца хлопцу, было б вялікай стратай так для яго, як і для самой культуры. Пошукі спонсара на пакрыццё кошту вучобы, аднак, не далі выніку. Вайна выгнала Пётра Нядзвецкага на эміграцыю ў Нямеччыну, а пасля ў ЗША. У Нямеччыне, перасыланы з фабрыкі ў фабрыку юнкерскага канцэрна, хутка гуртаваў вакол сябе сваімі песнямі, музыкай і вершамі беларускіх дзяўчат і хлопцаў, што вывезеныя немцамі, дзялілі лёс чужаземных рабочых. Безупынна галодны, стараўся зрабіць больш прыемным лёс тых безабаронных выгнанцаў, да якіх і сам залічаўся. У адным са сваіх вершаў піша:

*Ідзіўна мне —*
*адзінаю правінай*
*за што мяне выгнанца лёс спаткаў*
*ёсць тое,*
*што душой*
*усё быў я з Радзімай.*
*І што свой родны Край я над усё*
*кахаў...*

З заканчэннем вайны ўдалося Пётры заняць шматзначную пазіцыю ў беларускім тэатры эстрады Міколы Куліковіча, дзякуючы якому значна павысіў ён свае музычныя веды і практыку. У ЗША Пётра Нядзвецкі жыве з 1953 года і ўвесь час застаецца верны сваёй творчасці, у якой выступае як Пётра Звонны. Творы свае перасылае сп. Гаю Пікарду ў бібліятэку імя Скарыны ў Лондане, а некаторыя друкуе ў беларускіх часопісах.

Творчасцю П. Нядзвецкага, асабліва музыкай, зацікавілася Галіна Левашкевіч — дырэктар Фонду культурных ініцыятываў у Менску. Яна, між іншым, піша: „Найбольшую цікавасць вызначылі песні: „Ой, ды забалела маё сэрцайка" і „Калыханка". Гэтыя песні мы нават уключылі ў рэпертуар нашага хору і зараз працуем над імі".

Пасля паўвека ўдалося Пётры адведаць Радзіму з нагоды сусветнага спаткання беларусаў замежжа ў ліпені 1993 года. З Менска паехаў ён перад усім у свой родны кут, а там і ў Будслаў, каб пакланіцца цудоўнаму вобразу Божай Маці, якой астаўся верны ўсё жыццё і збярог вобраз Яе ў сваёй памяці і сэрцы.

Пры нагодзе, у Менску перадалі мы частку музычных твораў П. Нядзвецкага дырэктару Гайнаўскага дома культуры сп. Мікалаю Бушко. Сп. М. Бушко паведамляе: „... І тут дайшлі мы да выкаду, што матэрыялы (прынамсі большасць), даволі цікавыя... На сёння зробленая апрацоўка „Ідуць жаўнеры-беларусы" для мужчын. Не ведаю, магчыма, што ўдасца нам заспяваць яе ў час „Беларускай песні-94".

Іншыя творы атрымае ў хуткім часе сп. Сяргей Лукашук з Бельска.

Усё гэта дазваляе спадзявацца, што працы П. Нядзвецкага вызваляцца з замежных архіваў і, дзякуючы добрай волі дзеячоў беларускай культуры, узбагацяць яе творамі невядомымі дасюль маладому пакаленню.

**ЯНКА ЖАМОЙЦІН**

# БЕЛАРУСЬ НА ЎРОКАХ ГЕАГРАФІІ

## IV. Унутраныя воды

Беларусь мае густую рачную сетку. Яе тэрыторыя занята басейнамі Дняпра, Заходняй Дзвіны, Нёмана і Заходняга Буга. Самы вялікі па плошчы — рачны басейн Дняпра. Ён ахоплівае больш за палову тэрыторыі рэспублікі. Галоўныя прытокі Дняпра — Прыпяць, Бярэзіна і Сож. Даўжыня Дняпра ў межах Беларусі — каля 697 км.

Поўнач краіны занята басейнам Заходняй Дзвіны (даўжыня ў Беларусі — каля 500 км). Яе прытокі — Дзвіна і Дрыса. Нёман (459 км — даўжыня беларускага адрэзка гэтай ракі) і яго прытокі Шчара, Вілія і Зяльвянка збіраюць воды ў заходняй частцы Рэспублікі. Невялікая тэрыторыя на крайнім паўднёвым захадзе адносіцца да басейна Заходняга Буга. На тэрыторыі Беларусі цякуць вярхоўі яго правых прытокаў — Мухаўца і Лясной. На захадзе Рэспублікі ляжаць таксама вытокі Нарвы.

Беларускія землі перасякае галоўны еўрапейскі водападзел. Нёман, Заходняя Дзвіна і Заходні Буг прыналежаць да басейна Балтыйскага мора, а Днепр з прытокамі — да басейна Чорнага мора.

Рэкі характарызуюцца водна-снежным рэжымам, з максімальным водным станам у красавіку — падчас веснавога ледаходу. На поўначы Беларусі рэкі скаваны лёдам на працягу 3,5—4,5 месяца, а на паўднёвым захадзе — 3—3,5 месяца.

У Беларусі налічваецца звыш 10 тысяч азёр. Больш за ўсё яны ў паўночнай частцы Рэспублікі — гэта Беларускае Паазер'е. Амаль усе яны ўтварыліся ў выніку дзейнасці ледавіка. Самае вялікае — Нарач плошчай 80 кв. км. Наступныя месцы займаюць азёры: Асвейскае, Чорнае, Лукомльскае і Дрывяты. Азёр плошчай больш за 10 кв. км. усяго 23. У возеры Доўгім глыбіня дасягае 53,6 м. У некаторых раёнах Віцебскай вобласці азёры займаюць да 10% агульнай плошчы тэрыторыі.

На многіх рэках створаны вадасховішчы. Шырокай вядомасцю карыстаецца Заслаўскае вадасховішча — любімае месца адпачынку мянчан.

Самым буйным штучным вадаёмам Беларусі з'яўляецца Вілейскае вадасховішча. Яно створана шляхам узвядзення плаціны на рацэ Вілія. Вадасховішча размешчана на адлегласці 90 км на паўночны захад ад Менска. Плошча вадасховішча каля 65 кв. км.

**Ю. БАЕНА**

# ПАПРАЎКА

У маім, даўно ўжо, пэўна, чытачамі забытым інтэрв'ю з Юркам Чудзіным пра фільм „Максім Гарэцкі" („Ніва" н-р 37 (1948) за мінулы год) пракраліся дзве досыць істотныя памылкі.

Па-першае, Максім Гарэцкі нарадзіўся 6 лютага 1893 г., а не 6 ліпеня, як Вы надрукавалі;

па-другое, трэці ад канца сказ у арыгінале гучаў так:

„Ён (Максім Гарэцкі, — Ю.Т.) глыбоканацыянальны, але заўсёды выходзіў дзесьці па разуменні і пастаноўцы праблем сапраўды на сусветны ўзровень" (Вы ж надрукавалі **не заўсёды**, што мяняе сэнс выказвання).

На жаль, ужо чатырохмесячная хвароба не дазволіла мне на гэта ў пору адгукнуцца, за што і прашу прабачэння ў чытачоў.

**ЮРЫ ТРАЧУК**

# АБ'ЯВА

Sprzedam mieszkanie 60 $m^2$ w Białymstoku. Tel. 522-835 (po 15-ej).

# „ДАРАВАЛЬНЫ ЗАПІС КАНСТАНЦІНА”

Сп. Ж. Жменька прыслала мне пісьмо з просьбаю, каб я шырэй напісаў аб фальсіфікаце „Эдыкта Канстанціна да папы Сільвестра”, выдуманага ў 750 г. у канцылярыі рымскага папы Сцяпана II (III) (752—757). Дакумент гэты называецца „Даравальны Запіс Канстанціна”. Слаўны фальсіфікат распачынаецца аповесцю імператара Канстанціна (311—337) аб сваёй хваробе праказе (лепры). У час гэтай хваробы быццам бы прысніліся імператару Апосталы Пётр і Павел, а папа Сільвестр вылечыў яго з гэтай хваробы. З удзячнасці за гэта імператар прыняў ад яго хрышчэнне і прызнаў яму прымат над цэлым хрысціянствам і загадаў, каб папу рымскага так сама шанавалі, як і імператара. Прывяду толькі некалькі сказаў з гэтага фальсіфіката:

1) „У сувязі з тым, што ў нашых руках астаецца свецкая імператарская ўлада, пастанаўляем, каб Прасвяты Рымскі Касцёл быў акружаны самым высокім гонарам і каб Прасвятая сталіца Пятра мела вышэйшае значэнне, чым наша імператарская ўлада і наш зямны трон — таму ўдзяляем яму такой улады, сану, моцы і гонару, якая належыцца імператару”.

2) „Таксама ў заключэнні пастанаўляем, што Ён (Рымскі Касцёл) павінен мець галоўнае кіраўніцтва (principatum) над чатырма галоўнымі Сталіцамі: антыёхскай, александрыйскай, іерусалімскай і канстанцінопальскай, як і над усімі Цэрквамі Божымі ў цэлым свеце і што кожны папа павінен стаяць вышэй і быць князем усіх епіскапаў на зямлі і згодна з Яго загадам мае мець арганізоўванае ўсё тое, што адносіцца да Божай Службы і ўмацавання Хрыстовай Веры”...

3) „Для прыпадабнення Яго ўлады да нашай імператарскай, каб цераз Яе папская тыяра не была зацемнена, але наадварот, каб яшчэ больш, чым годнасць і магутнасць свецкага імператарства асталася ўпрыгожана — так наш палац (што сказана вышэй), як і горад Рым і ўсе правінцыі, мясцовасці і гарады ўсёй Італіі і Захаду адступаем і перадаем згаданаму бласлаўленаму епіскапу нашаму Сільвестру, усеагульнаму папе і Яго наследнікам на папстве”...

4) „Адсюль прызнаем за адпаведнае, каб наша панаванне і дзяржаўную ўладу перанесці на ўсходнія краіны і пабудаваць горад пад нашым іменем у візантыйскай правінцыі... і там устанавіць нашае панаванне, таму што не з'яўляецца слушнай справай, каб зямны імператар меў там уладу, дзе Нябесны Уладар стварыў вышэйшую свяшчэнніцкую ўладу і сталіцу хрысціянскай рэлігіі”... *Edictum Constantini, Migne P. L. (том 7 (567—578)*.

Гэтым фальсіфікатам папа хацеў прыраўняць рымскага папу да візантыйскага імператара, які ўжо у VIII стагоддзі не меў ўплыву на заходнюю Еўропу, але папа захацеў атрымаць там такую ўладу, якую калісь меў імператар над заходнімі правінцыямі. Папа пры дапамозе фальсіфіката хацеў накінуць цэнтралізацыю ўсёй хрысціянскай Еўропе, якой яшчэ ў VIII стагоддзі не было.

Фальсіфікат адыграў важную ролю на двух папскіх саборах у Ліёне (1274 г.) і ў Фларэнцыі (1439 г.), які праводзіў г. зв. унію грэкаў з папамі. І хаця фальсіфікат быў шыты белымі ніткамі, многія ў яго паверылі.

Імператар Канстанцін быў абсалютным і лютым самадзержцам. Ён зусім не прыняў хрышчэння, хаця многія гісторыкі пісалі, што ахрысціў яго перад смерцю Еўсевій з Нікадыміі. Ён памагаў хрысціянам не таму, што верыў у Хрыста, а толькі з палітычнага карысталюбства. Ён заўсёды лічыў сябе галавой хрысціянства, што падкрэсліваў тытулам „Найвышэйшы Свяшчэннік” (Pontifex Maximus). Цяжкай рукі самадзяржаўца папства не пачула толькі таму, што ён у 330 г. перанёс сталіцу імперыі з Рыма ў Візантыю, якую назваў Канстанцінопалем. Самая адлегласць Італіі ад Басфора памагала папству, бо цяжка (а з кастрычніка да сакавіка зусім немагчыма) было дабрацца з Канстанцінопаля ў Рым. Вызваленыя ад імператарскага кантролю, рымскія папы стараліся здабыць як найбольшую незалежнасць, асабліва пры дапамозе варожых імператару германскіх варвараў, якія былі арыянамі па веравызнанню.

Падобных і яшчэ большых фальсіфікатаў паўставала ў Рыме вельмі многа. Многія з іх былі выдуманыя манахамі. Адным з іх быў г. зв. Псеўдаісідар (Isidor — Mertacor) аўтар слаўных фальсіфікатаў „Дэкрэталаў”, якія паўсталі ў 847—852 г. У іх уваходзяць выдуманыя лісты папаў з першых чатырох стагоддзяў. 10 лістоў былі напісаны на грэцкай мове, а 39 — на лацінскай. На гэтых фальсіфікатах умацоўвалася папства, іх распаўсюджвалі заходнія гісторыкі ў XII стагоддзі. І толькі ў XIV стагоддзі ўсумніўся ў іх каталіцкі ксёндз В. Валля, а раскрыў іх хлусню у XV стагоддзі лютэранін М. Флацій — галоўны выдавец г. зв. „Цэнтурый Магдэбурскіх”.

**Д. ШАТЫЛОВІЧ**

# VII УСЯЛЕНСКІ САБОР — НІКЕЯ, 787 г.

Гэты Сабор быў скліканы пры імператрыцы Ірыне з-за ерасі іканаборства (праследавання святых абразоў). Давяла яна да нішчэння ікон і праследавання тых, хто іх ушаноўваў.

Іконапаклонства (ушаноўванне святых абразоў) стала паўсюдным у жыцці Царквы ў IV і V стагоддзях. Паводле навукі Царквы павінна яно выяўляцца ў глыбокай пашане, Божай боязі, у малітве і пакланенню асобам, прадстаўленым на іконах. Сама ікона не з'яўляецца святой рэччу, але ўшаноўваем яе як святую выяву Божых абліччаў або святых угоднікаў Божых. Зрэшты, іконы атрымоўваюць годнасць святой выявы толькі пасля адпаведнага асвячэння.

У простанароддзі ў выніку недастатковай рэлігійнай адукацыі, узнікла перакананне, што абліччы, асобы, прадстаўленыя на іконе, спалучаны з імі нераздзельна. Гэта вяло да пакланення самым толькі іконам, што, вядома, было няправільным. Неўзабаве з'явіліся памкненні, якіх мэтай было выпраўленне гэтай памылкі. На жаль, выпраўляць няправільныя адносіны да ікон стала свецкая ўлада, адпіхнуўшы на бок духоўную. Разам з празмерным шанаваннем ікон пачалі наогул нішчыць шанаванне святых ікон — іконапаклонства. Гэтыя праследаванні пачаў імператар Леў III Ісаўранін — таленавіты стратэг і палітык, які слаба разбіраўся ў справах веры. Ён спадзяваўся, што ў выніку знішчэння іконапаклонства наблізіць да хрысціянства яўрэяў і магаметан і далучыць страчаныя правінцыі. У 726 годзе выдаў ён эдыкт, які стаў пачаткам іканаборства. Спачатку сталі іконы размяшчаць штораз вышэй, каб людзі не маглі цалаваць іх, а потым выкідалі іх з храмаў і палілі. Супраць распараджэння імператара выступіў канстанцінопальскі патрыярх Герман, а падтрымаў яго ў гэтым папа Рыгор II, які прыгразіў выхадам з-пад імператарскай улады. У абарону святых ікон выступіў таксама Святы Іаан Дамаскін, які напісаў некалькі прац на гэтую тэму. У першай з іх звярнуўся ён да жыхароў Канстанцінопаля і паясніў ім, што піша гэтыя словы таму, што больш баіцца Бога, чым імператара. Выказаў таксама свой непакой тым, што прыклад уладара можа заразіць і яго падданых. „Я маю жаданне і адвагу прадстаўляць нябачнага Бога не так, як Ён існуе нябачным, але так, якім Ён нам аб'явіўся”. Далей паясняе, што Царква не можа грашыць і нельга падазраваць яе ў фальшывай навуцы, спасылаецца на фрагменты Старога Запавету і навуку Святых Айцоў Царквы. Абвяргаючы закід празмернага шанавання ікон, у адной з прац напісаў: „Трэба вучыць просты народ”.

Знішчанне ікон магло здзяйсняцца толькі ў межах Візантыйскай імперыі. Усходнія Цэрквы, якія апынуліся пад уладаннем арабаў, парвалі лучнасць з грэчаскай Царквою. Наследнікам пазбаўленага кафедры патрыярха Германа стаў Анастасій, які скрупулёзна выконваў імператарскія загады. Чарговы папа, Рыгор III, склікаў у 732 годзе сабор у Рыме, які кінуў анафему на іканаборцаў. Леў III дасягнуў таго, што іконы выкінулі з храмаў, але пакінулі іх у дамах. Яго наследнікі — Канстанцін V Капронім і Леў IV Хазар — пайшлі па слядах свайго бацькі і дзеда. Асабліва Канстанцін V узмацніў праследаванні святых іконаў так, што нават у дамах нельга было іх захоўваць. У сваім змаганні дайшоў ён да таго, што імкнуўся знішчыць культ святых (почитание) і іх мошчы, а таксама манаскі стан.

Урэшце, пасля смерці Льва IV, калі ўладарыць стала яго жонка, імператрыца Ірына, іконапаклонства стала адраджацца.

Патрыярхам быў выбраны Тарасій, які наладзіў сувязі з усходнімі Цэрквамі і Рымам. Пасля пачатковых цяжкасцяў, супраціваў, выкліканых у прыхільнікаў іканаборства, у 787 годзе быў скліканы ў Нікеі VII Усяленскі Сабор, які ўстанавіў 22 каноны. Прымала ў ім удзел 367 епіскапаў.

Сабор вярнуў культ святых ікон і ўстанавіў навуку Царквы ў дачыненні да гэтага пытання. Тлумачыць яна, між іншым, што так, як змяшчаецца выяву святога і жыватворнага Крыжа, трэба змяшчаць у святых храмах, на свяшчэнным начынні і аблачэннях, на сценах і на дошках, у дамах і пры дарогах святыя іконы Збавіцеля, Багародзіцы, Анёлаў і ўсіх святых. Такім чынам вернікі ў яшчэ большай ступені схіляюцца да ўспамінання іх праабразоў і ўзмацняюць любоў да іх.

Пасля VII Усяленскага Сабора іканаборства яшчэ многія гады не давала спакою Царкве. Канчаткова іконапаклонства было зацверджана на памесным саборы ў Канстанцінопалі ў 842 годзе пры патрыярху Мяфодзію і імператрыцы Фядоры. На памятку яго ў першую нядзелю Вялікага Посту было ўстаноўлена Свята — Трыумф (Торжество) Праваслаўя — як перамога Царквы над усімі ерасямі.

*Паводле „Истории Хрыстианской Церкви” Н. Талберга (Москва — Нью-Йорк, 1991),*

*апрацаваў*
**С.Н.**

# НІЧОГА НЕ БЯРЫЦЕ З МОГІЛАК!

Калі нашыя выязджалі ў „Прусы”, некаторыя не ведалі, што апрача каталіцкага і праваслаўнага веравызнання ёсць яшчэ і іншыя. А пра іншых людзей, што там жылі, думалі, што гэта проста немцы.

Аднойчы пайшлі дзяўчаты на евангелічныя могілкі. Пахадзілі, паразмаўлялі і рашылі „адпомсціць” немцам за іх здзекі ў час вайны. Павырывалі кветкі, а на магілках нагадзілі. Увечары, калі ўсе палягалі спаць, пачулі з-пад зямлі енк і плач.

Пералякаліся дзяўчаты, пабеглі да хлопцаў.

— І вы гэта чуеце? — лякаталі.

— Але! Добра вам так! Адкуль ведаеце, каму крыўду зрабілі? Каму кветкі з магілкі вырвалі? Якому чалавеку напаскудзілі на месцы вечнага спачынку?! Павінны вы згарэць ад сораму!

Раніцай дзяўчаты пабеглі на могільнік, прыбралі там, і кветкі аддалі — паставілі на магілках у слоіках з вадою.

**АЎРОРА**

**У сувязі з трагічнай смерцю студэнта першага курса беларусістыкі Славянскай Філалогіі Каталіцкага люблінскага універсітэта**

**ЯЦКА РЫНКУНА**

**глыбокія спачуванні сям'і, ягоным сябрам і знаёмым выказваюць выкладчыкі і студэнты Секцыі славянскай філалогіі Каталіцкага люблінскага універсітэта.**

**У нашай светлай памяці назаўсёды застанешся Ты як той, хто хацеў спасцігнуць культуру і мову шматпакутнага беларускага народа.**

**ВЫКЛАДЧЫКІ І СТУДЭНТЫ**




У „Ніве” н-р 5 прачытаў я ў рубрыцы „Наша пошта” ліст Лявона Салавея сына Яна і Антаніны з дома Кашалевіч. Лявон Салавей, які жыве цяпер у ЗША, з увагі на складаныя падзеі са свайго дзяцінства не ёсць упэўнены, якая яго дата нараджэння.

Я быў суседам спадарства Яна і Антаніны Салавеяў і быў прысутны на ягоных хрэсьбінах. Мне было тады 21 год. З поўнай адказнасцю інфармую, што Лявон Салавей нарадзіўся ў 1940 годзе пры савецкай уладзе.

Віктар Салавей
15-405 Białystok
ul. Młynowa 65/II



*Шчыты, гміна Орля.* **Фота з архіва**

<u>**ЯКІЯ МЫ ЛЮДЗІ**</u>

# ТЭАТР

*Калі ненармальнасць становіцца нормай... (Міра Лукша, „Ніва" н-р 12 (1293) ад 21.03.1993 г.).*

Гадоў пяць таму ў Менску запрасіў мяне на прэм'еру сваёй камедыі адзін з вядомых беларускіх драматургаў, мой добры знаёмы. Спектакль ставіў тэатр Янкі Купалы.

Я вельмі ўцешылася, што пайду ў тэатр, але адначасова спахмурнела. Справа ў тым, што ў сваёй ранняй і позняй маладосці я даволі-такі любіла апранацца, аднак жа, едучы кудысьці, старалася браць толькі рэчы найбольш неабходныя, тыя, што напэўна прыдадуцца ў дарозе, — каб не цягаць лішняга багажу. Тэатра на гэты раз у маіх планах пабыўкі ў Менску не было, а ў багажы не было ні парчы, ні аксаміту. Я вырашыла апрануцца ў тэатр скромна, у чым хадзіла, — не акторка ж!

Калі ў фае тэатра мяне сустрэў мой знаёмы, я была ў даволі вузкіх штанах з чорнага бліскучага атласу і ў вельмі шырокай матавай (таксама чорнай) блузцы, падпярэзанай у таліі тоўстым чорным шнурком. У блузкі не было каўнера, а рукавы былі сабраныя ў папярочныя зборачкі. Знаёмы драматург зняў з мяне і аддаў у гардэроб пушыстую фіялетавую куртку са штучнага футра — кімано, стаячы каўнер, унізе заканчвалася шырокім поясам.

У гэтым моманце я заўважыла недаўменне ў вачах жанчын, якія распраналіся побач. Я глянула ў люстэрка. Здаецца, усё было ў парадку. Мы накіраваліся ў глядзельную залу, якую акружаў вялікі, доўгі калідор — па ім прахаджваліся аматары мастацтва.

У калідоры мы сустрэлі галоўнага рэжысёра і затрымаліся, каб прывітацца ды перакінуцца некалькімі словамі. Абыякавыя твары міналі нас — людзі былі перапоўнены чаканнем моцных уражанняў. Хвілінку! Абыякавымі позіркамі то абкідалі яны нязнаных ім творцаў гэтага спектакля — аўтара і галоўнага рэжысёра, але не маю вопратку, якая выразна дражніла шпацыруючых тут жанчын. Некаторыя з іх азіраліся, іранічна крывілі губы. Дзве старыя дзеўкі, мінуўшы нас, адвярнуліся і так, каб я бачыла, па-мужчынску моцна сплюнулі.

Я пацягнула свайго партнёра ў залу. Мы ішлі сярэдзінай, а злева і справа, як па камандзе, суправаджалі нас крывыя жаночыя ўсмешкі, і я адчувала сябе, быццам асуджаны на пакаранне салдат царскай арміі, які ідзе паміж дзвюма шарэнгамі сваіх сяброў, а яны яго лупцуюць розгамі.

Чым хутчэй мы селі ў трэцім ці пятым радзе, і я крыху разгледзелася. Сапраўды, я пачынала разумець гэтых людзей. Нездарма асацыяцыі мае пайшлі ў напрамку лупцуючых мяне салдафонаў. Большасць жанчын была апранута, як у мундзіры, у сукенкі аднаго фасону — з буфамі і блізка да цела. Мой бацька-нябожчык, калі б жыў, напэўна падсумаваў бы, як калісь: рускія мусяць мець цара і хадзіць у мундзірах! А ў нас, зрэшты, тады ўжо ад некалькіх гадоў насілі вельмі шырокую вопратку. Справа памалу выяснялася.

У часе антракту, калі і мы пайшлі прайсціся па калідоры, жанчыны стралялі па мне сваімі вачыма, адварочваліся, шушукаліся, хіхікалі. Адна даволі элегантная дама, змерыўшы мяне крытычным позіркам знізу ўверх, на ўвесь голас сказала: „А эт што, в рамках пірістройкі?!" І як не дзіўна, толькі ў яе рэакцыі я ўбачыла нейкі сэнс, хаця можна было дапусціць думку, што і яе, як папярэдніц, выхоўваў дзіцячы дом, а не бацькі.

Шчасліва датрывалі да канца спектакля. Заслона апусцілася і паднялася ізноў. На сцэне стаялі акцёры і галоўны рэжысёр, а зала аж трэслася ад апладысментаў. Я толькі спыталася ў свайго знаёмага: „А аўтара тут не выклікаюць?!", як зараз жа са сцэны нехта гукнуў: „Аўтар! Аўтар!". Мой сусед схамянуўся, а я ўстала і прапусціла яго, бо сядзела бліжэй да цэнтра. Усе галовы з глядзельнай залы павярнуліся ў наш бок. Аўтар выйшаў на сцэну, і грымнуў гром авацый. Было відаць, што спектакль спадабаўся. Парушаў, зрэшты, найбольш актуальныя тэмы, а напісаны быў лёгка, у форме фарса.

Аўтар сышоў са сцэны, вярнуўся да мяне, і разам мы рушылі назад той жа дарогай, па якой ішлі сюды. Ізноў мы былі пасярэдзіне залы, а злева і справа ад нас — тыя ж людзі, што і раней. Але цяпер гэта не былі мае каты, што бязлітасна сяклі мяне розгамі, а людзі, якія глядзелі на нас з зацікаўленнем, я б сказала нават, з нейкай дозай захаплення. На ніводным твары я не заўважыла не тое што іроніі, але нават крышынкі неадабрэння. Наадварот, суцэльны апляўз, цёплыя позіркі, шырокія ўсмешкі. Як жа, гэта ж аўтар, пісьменнік, нязвыклы чалавек, дык, калі хтосьці, хто ідзе з ім, апрануты крыху інакш, значыць, так і трэба! (Вам, артыстам, можно всё, — сказала менская знаёмая Міркі Лукшы, калі ўбачыла ў яе пярэдняй фоташпалеру („Ніва" н-р 12 (1923) ад 21.03.93 года), хаця была поўнасцю перакананa, што гэтак не робяць. І Мірка выснула вывад, што пэўным асобам дазволена пэўная эксцэнтрычнасць у выглядзе і паводзінах, больш таго, яны становяцца для людзей снабістычным узорам, аздобай іх шэрага жыцця).

* * *

Я тады, у тэатры, праўду кажучы, і не падумала нават, што мяне будуць біць, але што запляваць маглі б, не буду граха таіць, — прамільгнула думка. Калі б... не даведаліся, што была я ў кампаніі аўтара п'есы, вялікага, як ні як, чалавека.

**АДА ЧАЧУГА**

# КРЫЖАВАНКА



**Гарызантальна:** 3. той, хто есць, 8. бабовая расліна, якая высейваецца для ўгнаення, 9. прыток Конга, 10. турэцкі нявольнік, 11. беларускае возера, 13. 60 секунд, 15. матэрыял для далейшай апрацоўкі, 16. дакучлівае насякомае, 20. жыццярадаснае светаадчуванне, 22. роўнае месца на зямлі, падрыхтаванае для канкрэтных мэт, 23. змазачнае масла, 27. месяц, 29. горад на Гомельшчыне, 30. плод парэчкі, 31. няшчасце, 32. маладыя расліны, вырашчаныя для перасадкі, 33. свежы след ад ранення, 34. зуб слана.

**Вертыкальна:** 1. фігура чалавека зробленая з саломы, 2. металічныя латы на грудзях і спіне рыцара, 4. заможнасць, 5. слаўны фінскі стаер, 6. хваёвае дрэва, 7. жаночае імя, 12. назва залатой манеты ў царскай Расеі, 14. малы індык, 16. міжземнаморская выспа, 17. паказвае шлях караблям, 18. жаночая мода, 19. рака ў Казахстане, 21. абвінавачаны ў судзе, 24. палёгка, 25. рэха, 26. касцяк галавы, 27. месца, якім выходзяць, 28. гліст.

**(ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 3 н-ра:**

**Гарызантальна:** пальма, віхура, Ліпары, раса, клён, Багдановіч, рука, каса, Чыкага, Мальта, Марока.

**Вертыкальна:** пакора, Малі, „Віры", рацыён, пастаноўка, сабака, клічка, Рувума, сарока, Чыта, гама.

Кніжныя ўзнагароды атрымоўваюць **Галена Тапалянская** з Трасцянкі і **Аляксандр Дабчынскі** з Беластока.

# ЖАХІ І ПРЫВІДЫ БЕЛАСТОЧЧЫНЫ
## або „Летапіс зомбі" і водгулле Зборышча

Радаслоўная зомбі на Беласточчыне ахутана мрокам таямніцы. Адны мяркуюць, што скінулі іх сюды на парашутах, іншыя даказваюць, што зомбі быццам тут заўсёды жылі, а яшчэ іншыя (галасы такія з'яўляюцца час ад часу), што зомбі — чужая інтрыга. Мы над складанасцямі пытання пра генеалогію затрымлівацца не будзем — сцвердзім тут толькі той факт, што зомбі на працягах сваёй гісторыі выпрацавалі інстытуцыянальныя формы жыцця з шмат якімі іх прыкметамі — арганізаваліся ў таварыствы, аб'яднанні, асацыяцыі, звязы, разгарнулі выдавецкую дзейнасць. Сярод выданняў перыядычны характар маюць „Летапіс зомбі" і „Штотыднёвы зомбі".

У апошнім выпуску „Летапісу зомбі", які выйшаў у Выдавецтве „Зомбланд", шмат увагі адводзіцца дакументам Зборышча зомбі ды моцна крытыкуюцца „Штотыднёвыя зомбі". „Рашуча асуджаем, — чытаем у ім, — тых пісакаў, якія час ад часу друкуюць у „Штотыднёвым зомбі" такія артыкулы, якія кампраметуюць нашых інструктараў. Толькі неразважнасцю рэдактара і журналіста можна вытлумачыць з'яўленне ў „Штотыднёвым зомбі" артыкула, у якім гаварылася, што інкубатары „абалваньваюць маладых зомбі". Праявай бяздумнасці былі публікацыі, у якіх падаваліся ілжывыя інфармацыі аб немаральным, распусным захаванні маладых зомбі ў бельскім Інкубатары. Усе такога тыпу з'явы добра служаць нашым ворагам і моцна шкодзяць справе зомбі".

Чытачу належыцца тут адно паясненне. Нягледзячы на тое, што лёс усіх зомбі аднолькавы — жывы мярцвяк прысуджаны на вечнае і беспрытульнае бадзянне — у асяроддзі зомбі дайшло да спрэчкі за „Штотыднёвы зомбі", які, паводле „Летапісу", на працягу доўгіх гадоў быў органам Зборышча ды ў выніку інтрыг маладых зомбі быў ад яго адлучаны. Адчуваецца, што справа гэтая паклала цень на ўзаемадачыненні паміж зомбі, якіх не палагодзіла нават Зборышча. Удзельнікі Зборышча, чытаем у „Летапісе", зычліва сустрэлі выступленне старшыні Аб'яднання зомбі — на жаль, на першую частку Зборышча ён спазніўся, а пасля выступлення хутка выйшаў і таму атмасферы яго не адчуў. Еднасці, адным словам, не атрымалася з-за спазнення.

„Летапіс зомбі" змяшчае багатую інфармацыю пра дзейнасць зомбі наогул. Змест „Летапісу" добра ахарактарызаваў рэцэнзент Выдавецтва „Зомбланд", які напісаў, што акрамя асноўных астранамічных звестак таксама расказваецца ў ім аб жыцці зомбі на Беласточчыне. Пасля прачытання „Летапісу", асабліва часткі пра Зборышча, можна дайсці да вываду, што шпіянаж, інтрыга і варажнеча займаюць у гэтым жыцці пачэснае месца.

**(яя)**

# ВЕР-НЕ-ВЕР

Астроне! Сніцца мне, быццам я еду на трактары, кірую ім (у сапраўднасці я не ўмею вадзіць машыну). Еду даволі хутка, але раптам ён перастае ехаць. Я тузаю за прылады, а ён толькі пыркоча, а потым і зусім спыняецца. Тут паяўляецца мой малодшы брат і кажа, што трактар таму не едзе, што няма паліва. Каб пабачыць, ці яно ёсць, мне трэба адчыніць у сярэдзіне трактара штосьці, што выглядае ці то як рухавік, ці як невялікі рэзервуар, але зверху яно не мае ніякіх шрубак, а брат мне кажа адкруціць покрыўку. Я кручу, кручу, а яна не адчыняецца. Тут я прачнулася. Што абазначае мой сон?

**Марта**

Астроне! Мне прысніўся вельмі каляровы сон. А каляровымі ў гэтым сне былі... боты. Быццам прывёз мне мой знаёмы аднекуль з заграніцы мноства абутку, а найбольш было зімовых боцікаў. Былі яны вельмі вясёлых колераў, вышываныя і з металічнымі аздобамі. Было іх надта многа, і я вельмі цешылася. Што мяне чакае, Астроне?

**Яніна**

Марта! Нешта „спыніцца" ў тваіх справах. Ехалася табе дагэтуль добра і лёгка, а пасля — перастала. Мяркую, што цяжка будзе табе зноў прывесці свае справы ў рух.

Яніна! Цябе чакае нейкае вельмі прыемнае, „каляровае" падарожжа. Боты абавязкова абазначаюць нейкую паездку, а твае ж боты былі прыгожыя.

**АСТРОН**




<u>*З МАНАСТЫРСКАЙ КУХНІ*</u>

## ПАСТА З СЕЛЯДЦОЎ

Прадукты:

*2 салоныя селядцы,*
*2 вараныя яйкі,*
*2 сярэднія цыбуліны,*
*2 лусты пшанічнага хлеба,*
*1/2 шклянкі фруктовага воцату,*
*некалькі лыжак алею.*

Селядцы вымачыць, зняць з іх скурку, выняць костачкі, дробна пасячы або пракруціць праз мясарубку. Атрыманую масу перамяшаць з дробна пасечанымі яйкамі, цыбуляй і хлебам, намочаным у воцаце. Мяшаць, даліваючы паступова алей, пакуль маса не стане дастаткова гладкай.

Пасту пералажыць на прадаўгаватую талерку, прыдаючы ёй форму рыбіны, ўпрыгожыць яе марынаванай гароднінай (агуркамі, шалоткай — маленькай цыбулькай, алівамі, пікле), марынаванымі грыбкамі і кружкамі вараных яек. Пасыпаць пасечанай зялёнай цыбулькай.

**ГАСПАДЫНЯ**




**"Niwa"**
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok,
skr. poczt. 149, tel. 210-33.

Druk: "ORTHDRUK", Białystok,
ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Мірaслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Мірановіч (галоўны рэдактар), Ян Мордань, Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:**

Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".

Prenumerata.

1. Termin wpłat na prenumeratę na III kwartał 1994 r. upływa 20 maja 1994 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały "Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na III kwartał wynosi 52 000 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Warszawa, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 9000 zł., a kwartalnie - 117000 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK SA, I Oddział Białystok, 370406-207917-132.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

 

*Іранічныя радкі*

*ВІНЦУК АСЬЦЮК*

**КАЖУЦЬ...**

*(працяг)*

Кажуць, сталі ў нас заводы,
Бо няма на іх работы,
Ды работы будзе шмат,
Як мы вернемся назад
Пад Маскоўскае крыло.
Кажуць, нашае сяло
Сыдзе хутка ў небыццё,
Як апалае лісцё,
Бо ў ім фермер жа завёўся.
І адкуль жа ён узяўся!
Кажуць, што накорміць нас
Прадсядацель і калгас.
Без калгаса наш народ
Знаць не будзе дзе асот,
А дзе жыта ў нас шуміць.
Без калгаса станем піць
І прап'ем зямлю і хату
Як цяпер — сваю зарплату.
Кажуць, што сягоння ў школе
Не чуваць нідзе ўжо болей
Мовы рускага народа.
Роднай моваю валодаць
Сталі ўсе, бо ёсць Закон
І выконваецца ён.
Ну а мову хто не знае,
Той цярпліва вывучае,
Бо без мовы — прападзе,
Нібы бурбалка ў вадзе.

*(заканчэнне будзе)*






*— Чаму не марцуеш?*
*— СНІДу асцерагаюся.*

Малюнак П. Козіча

# СМЕХ У САНАТОРЫІ

— Татка, чаму ў Польшчы ў 1981 годзе было ўведзена ваеннае становішча?
— Тады яшчэ жыў Брэжнеў і нельга было ўвесці даваеннае.

* * *

— Ці наша дзяржава цяпер незалежная?
— Так, бо нічога ад яе не залежыць.

* * *

— Выходжу, — гаворыць муж да жонкі, якая глядзіць тэлевізар.
— Добра, даражэнькі. Калі вернешся, а я далей буду глядзець тэлебачанне — не будзі мяне.

* * *

— Цікава, якія спадніцы будуць прадавацца ў гэтым годзе? — гаворыць жонка мужу.
— Будзе іх два сарты: тыя, якія табе не падабаюцца і тыя, што вельмі дарагія.

* * *

— Чаму ты вярнулася так позна? — пытае маці дачку.
— Бо, ведаеш, хлопец, які меў ахвоту мяне зачапіць, ішоў вельмі павольі.

* * *

— Думаю, што не адмовіцеся ад танца са мною, — звяртаецца гаспадыня вечарынкі да госця.
— Напэўна, я ж не прыйшоў сюды толькі дзеля прыемнасці.

* * *

— Радасна вітаем дарагога госця! Ці вы прыехалі на аўтамабілі?
— Не, на аўтобусе.
— Божа мой! А дзе ж мы яго паставім?!

* * *

— Пан прафесар, часта мне сніцца, што я — вядомы вучоны, лаўрэат Нобелеўскай прэміі. Што мне рабіць, каб гэты сон споўніўся? — пытае студэнт прафесара.
— Менш спаць.

* * *

— Быў я ў лекара і прасіў сіроп ад кашлю, а ён мне даў сродак на спаражненне кішэчніка.
— Прыняў?
— Прыняў.
— Кашляеш?
— Баюся...

* * *

— Які гэта час „размаўляюць дзве жанчыны"? — пытае настаўнік вучня.
— Страчаны.

* * *

У кавярню ўваходзіць вядомая кіназорка. Падыходзіць афіцыянт:
— Што шаноўная пані загадае?
— Амброзію.
— Амброзію? Што гэта такое?
— Амброзія, гэта напітак багоў.
— Выбачайце! Не пазнаў...

Даслаў
**АНДРЭЙ ГАЎРЫЛЮК**

# СЕНТЭНЦЫІ

Дыпламатычнае ўхіленне —
пад карункамі слоў пусты стол.

* * *

Хвіліна — гэта матыль вечнасці.

* * *

У куфар душу не замкнеш.

* * *

Свабода пачынаецца там,
дзе чалавек не дасягае.

* * *

На шахматнай дошцы жыцця
партыю выігрывае смяльчак.

**БАРЫС РУСКО**

# ЗДАНІ І ПАЧВАРЫ БЕЛАРУСІ

*(працяг; пачатак у н-ры 40 за мінулы год)*

## ЛІТАРАТУРНЫЯ ЗДАНІ

### Гаўляйтар і Пакаёўка

Некаторыя зданезнаўцы памылкова адносяць гэтыя істоты да віду гістарычных, але на самой справе яны з'яўляюцца чыста літаратурнымі, хаця і маюць сваіх рэальных прататыпаў — гаўляйтара Беларусі Кубэ і ягоную пакаёўку, таварыш-тэрарыстку Мазайнік. Гісторыя іх драматычнага суіснавання зафіксаваная ў свядомасці чытачоў, дзякуючы намаганням пісьменніка-міфатворцы савецкага перыяду Янкі Новака ў рамане „Зэгар спыніўся а дванаццатай гадзіне", а таму пераказ інтрыгі не ўваходзіць у задачу гэтай сур'ёзнай навуковай распрацоўкі.

Навукоўцы даўно заўважылі, што істоты, якія дзейнічаюць у будынках, дзе адбываліся рэальныя падзеі іх зямнога жыцця, няздольныя нанесці людзям вялікае шкоды. Але калі арэал іх існавання знішчаецца, здані і пачвары, у тым ліку і літаратурныя, вырываюцца на волю і нясуць у свет сваю крыважэрнасць і пазбаўленую сэнсу гнюснасць.

Так адбылося з Гаўляйтарам і ягонай Пакаёўкай.

Яны міралюбна і лагодна існавалі ў старым будынку Менска, па былой Дамініканскай (цяпер — Энгельса) вуліцы, дзе на той час месціўся Саюз пісьменнікаў БССР. Прыбіральшчыцы, вахцёркі і вартаўнікі даўно прызвычаіліся да таго, што па начах Гаўляйтар і Пакаёўка штораз узнаўлялі кульмінацыйную сцэну іх жыццяў: Пакаёўка падкладала Гаўляйтару ў ложак гадзіннікавую бомбу. Але напрыканцы сямідзесятых гістарычны будынак быў разбураны: спатрэбілася пляцоўка для пашырэння корпуса ЦК КПБ, а для Саюза пісьменнікаў быў пабудаваны новы дом, куды з усяго абсталявання, якое некалі належала гаўляйтару-нябожчыку, перавезлі адзін толькі раяль „Бехштайн". Не маючы куды падзецца, здані схаваліся ў музычны інструмент, і такім чынам трапілі ў новы будынак.

Адчуваючы настальгічную тугу па Фатэрланду, гаўляйтар Кубэ пачаў з'яўляцца ў камінным зале, дзе намаганнямі мясцовых пісьменнікаў быў арганізаваны бар-більярдная. Паўпразрысты Гаўляйтар грэўся каля агню ў парадным мундзіры з усімі медалямі, а Пакаёўка гэтым часам майстравала чарговую бомбу. Паколькі прывіды рабіліся збольшага бачнымі пасля поўначы, калі мясцовыя аматары кія ды чаркі напіваліся да паўпрытомнасці і танчылі на більярдзе, то ніхто з іх не зважаў на дзіўнага фацэта ў фашыстоўскім мундзіры і ягоную сяброўку; да таго ж, здань Кубэ някепска гаварыла па-беларуску.

Так працягвалася даволі доўга, пакуль у бар-більярдную не завітаў аўтар несмяротнага рамана „Зэгар спыніўся а дванаццатай гадзіне", таварыш Янка Новак. Таварыш Новак, пісьменнік-чэкіст, як і мае быць, напіўся настолькі, што зблытаў мужчынскую прыбіральню з жаночай, дзе ў смуроднай кабінцы заспеў сваю літаратурную гераіню за майстраваннем чарговай гадзіннікавай бомбы. Не разумеючы сутнасці з'явы, пісьменнік-чэкіст пачаў заляцацца да зматэрэлізаванага плёну ўласнай фантазіі. Як ні дзіўна, але таварыш Янка Новак меў поспех; ён забавіўся са зданню настолькі, што цалкам забыліся на падрыхтаваную бомбу, якая, згодна з назовам несмяротнага рамана, выбухнула роўна а дванаццатай ночы, пашкодзіўшы каналізацыю. Помслівы Гаўляйтар, які не мог даравацЬ Янку Новаку зламыснай фальсіфікацыі, зацягнуў аблепленага фекаліямі кантужанага пісьменніка-чэкіста ў бліжэйшы міліцэйскі пастарунак і, прычапіўшы яму на грудзі Жалезны крыж, пакінуў пад дзвярыма, прыхапіўшы з сабой службовае пасведчанне таварыша Янкі Новака.

Пісьменніку-чэкісту выпала доўга тлумачыць, якім чынам і за што ён атрымаў фашыстоўскую ўзнагароду, не кажучы пра тое, што яму давялося сваім коштам рамантаваць разбураную прыбіральню. А што тычыцца зданяў Гаўляйтара і Пакаёўкі, то яны зніклі толькі пасля таго, як раяль „Бехштайн" і бар-більярдная былі асвечаны святарамі трох хрысціянскіх канфесіяў.

А таму яшчэ раз варта нагадаць пісьменнікам-міфатворцам пра адказнасць за праўдзівасць літаратурнага выкладання гісторыі Бацькаўшчыны.

*(працяг будзе)*

Падрыхтавалі
**ФРАНЦІШАК ХЛУС**
**і МАРЦІН ЮР**




Наймілейшае Сэрцайка! Ён быў за мяне крыху малодшы. Але мне заўсёды здавалася, што тыя тры гады розніцы не маюць ніякага значэння, калі людзей спалучае каханне. Праўда, жыццё наша выглядала ўжо па-рознаму: я працавала, а ён быў яшчэ студэнтам палітэхнікі і жыў у інтэрнаце. Я па-старому жыла яшчэ на кватэры, у адной пажылой жанчыны, там жа, дзе жыла і тады, калі не была яшчэ настаўніцай, а студэнткай. Старая нічога не мела супроць, калі мяне наведваў мой хлопец, а пару разоў нават заставаўся ў мяне наначы.

Але часамі здаралася так, што свайго хлопца я не бачыла цэлымі тыднямі. Казаў, што рыхтаваўся да экзаменаў, а не раз даводзілася мне ўбачыць яго ў той час у кавярні, у вясёлай кампаніі. Ну, што ж, суцяшала я сябе, ён жа малады чалавек, я ж не магу яго трымаць увесь час у сваёй пасцелі ды каля сваёй кухні. Скажу табе, Сэрцайка, праўду. Калі ён паведамляў мне, што сёння прыйдзе, я адкладала ўсе справы, бегла хутчэй за пакупкамі, варыла, смажыла, каб яму дагадзіць. А пасля, калі ўжо накармлю яго, нешта выпівалі і ішлі ў пасцель. Хіба толькі вар'ятка не лічыла б яго сваім хлопцам.

Аднак жа часамі сустракала яго з нейкай дзяўчынай. Гонар не дазваляў мне пытацца, хто яна, але ў сэрца быццам бы нож хто ўсадзіў. А ён заўсёды тлумачыўся, што яна разам з ім вучыцца, або нешта мусяць выканаць па загаду выкладчыка, або разам рыхтуюцца да экзаменаў. Я яму верыла, а мо проста хацела верыць, бо і пытацца не было пра што. Зрабіў бы і так тое, што хацеў, я ж бы яго да кахання не прымусіла.

І так я цярпліва чакала, пакуль ён скончыць вучобу, знойдзе працу і мы зможам пажаніцца. Прынамсі так было пастаноўлена між намі. А хлопец быў такі цудоўны — і на вока, і ў пасцелі, што, павер мне, чакаць было варта. Адны яго зялёныя вочы з доўгімі расніцамі чаго былі вартыя! Я кахала яго, як нікога ніколі ў жыцці, і не ўяўляла сабе, што змагу мець іншага мужа. Такія думкі нават у галаву мне не прыходзілі.

І калі б хтосьці мне сказаў, што той цудоўны, найсаладзейшы тыдзень, які мы правялі разам, будзе апошнім, я, мусіць, стукнула б гэтага чалавека. Як толькі я вярталася з працы, мой хлопец прыходзіў да мяне, і мы абедалі, а пасля кахаліся, як галубкі. Я была закаханая штораз больш. Проста захлыналася ад шчасця.

Хлопец меў ехаць да бацькоў, у суседняе ваяводства. У апошні дзень мы пасля полудня амаль не вылазілі з пасцелі. Кахаліся, як ніколі. Пасля я яму насмажыла на дарогу катлетаў і запакавала ў нейлонавы мяшочак. На развітанне мы моцна пацалаваліся.

І гэта быў наш апошні пацалунак. На другі дзень мая гаспадыня намякнула, што больш я яго, бадай, не ўбачу. Я недаверліва ўсміхнулася. І тады яна мне сказала, што мой хлопец паехаў жаніцца з нейкай амерыканкай, якую сасваталі яму бацькі. Мяне скаланула. Усё раптам уявілася мне ў іншым святле. Сапраўды, ён развітваўся са мною... Як ён мог падлажыць мне такую свінню?! Няўжо грошы, выгоды значылі для яго больш ад кахання?!

Хлопец вярнуўся ў Беласток праз месяц. Здаў апошні экзамен. Больш да мяне не прыйшоў. Сустрэла яго выпадкова на вуліцы, усё спакойна мне расказаў. І што ты на гэта, Сэрцайка?

**Вандзя**

Вандзя! Ты бачыла яго прыгажосць і сексуальныя здольнасці. Аказваецца, трэба было глядзець і на характар. Было відаць, што выгоды ён любіў ад пачатку... І ўчынак ягоны — згодны з ягоным характарам... Сумленнаму чалавеку штосьці такое і ў галаву не прыйдзе.

**СЭРЦАЙКА**

 